# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

17 лютага 2017 года №7 (1138)


Адна зямля

Мядзел, Астравец, Смаргонь, Віле..., Ашмяны, Мала..., Залож...

З 23 лютага, паважаныя мужчыны!

## 21 лютага – Дзень роднай мовы

# Родная мова – гэта прыўкрасна

У Дзень роднай мовы "Рэгіянальная газета" ўзгадвае вясёлыя гісторыі, звязаныя з цяжкасцямі перакладу на беларускую мову.

старонка 21

На фотаздымку Настасся Яцына, салістка ансамбля "Менестрэлі" з Маладзечна.

## Чым здзівілі творцы рэгіёна на міжнародным кніжным кірмашы

Пабачыць самыя незвычайныя кніжкі, сфатаграфавацца ў сапраўднай амерыканскай тэлефоннай будцы, адчуць сябе друкаром, пагутарыць з любімымі паэтамі, сярод якіх было нямала прадстаўнікоў нашага рэгіёна...

Шмат розных магчымасцяў было ў тых, хто не пашкадаваў часу і наведаў Міжнародную кніжную выставу ў Мінску.

У рамках выставы зладзілі прэзентацыі, сустрэчы, семінары. У чацвер, 9 лютага, у Нацыянальнай бібліятэцы правялі сімпозіум, прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Тут выступалі пісьменнікі з Турцыі, Пакістана, Італіі, Малдовы, Кітая, Расіі, Славакіі, Таджыкістана, Туркменістана, Калмыкіі.

Пісьменнік з Кітая падзяліўся сваімі стэрэатыпамі пра Беларусь. Расказаў, што пакуль не прыехаў сюды, пра нашу краіну ведаў толькі дзве рэчы. Па-першае, што тут усе шмат п'юць. Па-другое, што тут прыгожыя дзяўчаты. Прыехаўшы зразумеў, што пра дзяўчат – праўда. Пра алкаголь – не. Бо яго прыгожая перакладчыца, як ні дзіўна, не піла.

На самой выставе пісьменнікі прэзентавалі новыя зборнікі прозы і вершаў, выступалі барды. У пятніцу сваімі песнямі гледачоў "запальваў" ураджэнец Маладзечаншчыны **Кастусь Цыбульскі**. Пасля яго выступлення гледачы падыходзілі і цікавіліся, чаму ж яго не відаць на тэлебачанні.

– Каб раней, калі маладзейшы быў, можна было б і на тэлебачанне, – адказваў цікаўным паэт і бард. – А цяпер ужо стары конь, з якога час падковы здымаць.

На наступны дзень на галоўнай пляцоўцы кніжнага кірмашу аўтарскія песні гучалі ўжо ў выкананні віляйчаніна **Уладзіміра Цануніна**. Тут прэзентавалі кнігу гумару "Малпа рукі пацірае", куды ўвайшлі гумарыстычныя вершы нашага земляка.

А маладзечанскі бард і паэт **Юры Бялоў** прадставіў на імпрэзе сваю творчасць. Вяла прэзентацыю **Бажэна Мацюк** – паэтка і настаўніца сталічнай гімназіі, якая нарадзілася і вырасла ў Вілейцы.

І нарэшце, нядзеля. Нягледзячы на апошні дзень выставы, тут было шматлюдна. Наведнікі разглядалі аналаг станка, на якім Скарына друкаваў кнігі, фатаграфаваліся ў амерыканскай тэлефоннай будцы.

А ганаровым госцем выставы была Англія. На сваёй пляцоўцы англічане прапанавалі дзецям пагуляць у настольныя гульні, а дарослым – прайсці тэст на веданне амерыканскіх нобелеўскіх лаўрэатаў.

Паэтычная пляцоўка таксама не пуставала. Спачатку тут была сустрэча з пісьменніцай **Людмілай Рублеўскай**. А пасля чыталі вершы паэты Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Паэт і выкладчык, ураджэнец вёскі Бадзені на Мядзельшчыне **Мікола Шабовіч** чытаў вершы пра каханне. **Таіса Трафімава**, якая доўгі час жыла і працавала ў Маладзечне, падарыла гледачам урыўкі са сваёй аўтабіяграфічнай паэмы "Вёска пад ліпамі".

Паэтка **Іна Фралова** ў вершаваных радках згадала вёску Шыпкі на Вілейшчыне. Тут жылі яе дзядуля і бабуля. Цяпер яна прыязджае сюды на лецішча. "Я – шыпкоўская" часта паўтарае Іна на сустрэчах з чытачамі.

А ля стэнда "Мастацкай літаратуры" нас сустрэў яшчэ адзін зямляк – галоўны рэдактар выдавецтва ўраджэнец вёскі Пугачы на Валожыншчыне **Віктар Шніп**.

Хто, як не ён, ведае, ці выдавала ў апошнія гады "Мастацкая літаратура" паэтаў з нашага рэгіёна? Аказалася, не ўсё тут так добра.

– За апошнія трыпяць гадоў у "Мастацкай літаратуры" асобных кніжак паэтаў выйшла толькі назваў дзесяць, – расказаў Віктар Шніп. – На жаль, паэзія цяпер мала запатрабаваная. Выдаём тое, што мае добрыя бібліятэчныя заказы. А ў калектыўных зборніках сёе-тое ёсць.

Па словах галоўнага рэдактара выдавецтва, "Мастацкая літаратура" плённа супрацоўнічае з краязнаўцам з Маладзечна **Міхасём Казлоўскім**, які склаў некалькі зборнікаў, што выйшлі ў серыі "Беларусь літаратурная".

Ля стэнда выдавецтва "Янушкевіч" журналіст і выдавец з Вілейкі **Сяргей Макарэвіч** падарыў "Рэгіянальнай газеце" новы выпуск "Вілейскага павета", расказаў пра зомбі-харал "1813" маладзечанца **Уладзіміра Садоўскага** і пра кнігу Вільгельма Гаўфа "Карлік Нос".

Вы спытаеце, якія стасункі ў знакамітага нямецкага казачніка з нашым рэгіёнам? Даволі цесныя. На беларускую мову яго творы пераклаў ураджэнец вёскі Дварэц Хаценчыцкага сельсавета выкладчык замежнай мовы віцебскага ўніверсітэта **Уладзімір Папковіч.**

Аксана ЯРАШОНАК.

# Легендарнаму разведчыку "Маёру Віхру" – 100 гадоў

ВАЛОЖЫН

**10 лютага споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Аляксея Бацяна, савецкага разведчыка, ветэрана Другой сусветнай вайны, Героя Расіі (2007).**




У дзяцінстве будучая легенда разведкі Аляксей Бацян з лёгкасцю лавіў зайцоў голымі рукамі.

Аляксей Бацян унёс вялікі уклад у выратаванне Кракава ад знішчэння нямецкімі войскамі. Менавіта ён арганізаваў узрыў склада боепрыпасаў, што выратавала горад ад затаплення і знішчэння.

Чалавек-легенда і адзін з нямногіх, хто цяпер жыве і хто змагаўся на працягу ўсёй вайны – ад 1 верасня 1939 да 9 мая 1945 года.

Прататып галоўнага героя з савецкага фільма "Маёр Віхр". Нарадзіўся ў вёсцы Чартавічы на Валожыншчыне...

"10 лютага 1917 года ў сялянскай сям'і **Мікалая і Аўдоцці Бацяноў** з вёскі Чартавічы, – піша газета "Працоўная слава", – нарадзіўся хлопчык, якому быў наканаваны доўгі, поўны падзей і выпрабаванняў лёс. Сына бацькі назвалі Аляксеем.

Біяграфія яго гераічная. Першы раз сустрэцца ў баі з фашыстамі яму давялося ў верасні 1939 года ў складзе Войска польскага, куды быў прызваны на тэрміновую службу. Пасля таго, як Заходняя Беларусь была далучаная да СССР, Аляксей вырашае вярнуцца на Валожыншчыну.

На гэтым шляху ён выпадкова сустракае свайго дзядзьку па мацярынскай лініі **Змітрука Трапашку**, які таксама прабіраўся да сваіх. Удвух яны паспяхова прайшлі небяспечны шлях. Будучы разведчык уладкоўваецца працаваць настаўнікам. Захаваліся звесткі, што ў розныя часы выкладаў ён у школах Роўкавічаў, Няроў, Сакаўшчыны. Маладога, харызматычнага настаўніка заўважаюць супрацоўнікі савецкіх спецслужбаў і накіроўваюць на вучобу ў разведшколу НКВД.

Трэба адзначыць, што Аляксей Бацян з маленства вызначаўся дапытлівым розумам, здольнасцю да дакладных навук, пры гэтым яму лёгка даваліся і мовы, што значна пазней дапамагло "легалізоўвацца" ў розных краінах свету. Магчыма, адбіліся гены бабкі **Марыі**, ураджэнкі Гардынава (дзявочае прозвішча **Маляўская**). Яна выкладала ўрокі рэлігіі ў нядзельнай школе пры новай, толькі пабудаванай царкве Святых Алены і Канстанціна. Дарэчы, муж Марыі, дзядуля Аляксея **Раман Трапашка** з Савяцевічаў устанавіў на купалах храма крыжы, а таксама выканаў шмат сталярных работ унутры памяшкання, бо быў майстрам на ўсе рукі. Дзяцінства Аляксея і прайшло ў доме дзеда і бабкі.

Малым ён быў спрытны. Сваякі і сёння ўзгадваюць, што з лёгкасцю даганяў зайцоў на полі і лавіў іх голымі рукамі.

У Маскве, ужо будучы слухачом разведшколы, ён перамагае ў спартыўным спаборніцтве па скачках у вышыню. Пры невысокім росце, без падрыхтоўкі. Проста арганізатары мерапрыемства прапанавалі ўсім ахвотным памерацца сіламі са спартсменамі. Тады Аляксей устанавіў рэкорд, нават не здымаючы цяжкіх салдацкіх ботаў. Праз дзесяцігоддзі разведчыкі СССР будуць жартаваць, што Бацян здольны "свечкай" выскачыць з ботаў і зноў вярнуцца ў іх. І ўжо сур'ёзна дадаюць, што калі на адну чашу вагаў пакласці заслугі Аляксея Мікалаевіча, а на другую – усе заслугі знешняй разведкі СССР, то перавага будзе на карысць яго аднаго...

Так гэта ці не, але ў тым, што немцам не ўдалося падарваць старажытны Кракаў, вынік работы дыверсійнай групы пад кіраўніцтвам Бацяна. У гэтым польскім горадзе нават стаіць помнік "Алёшу". Тыя гераічныя падзеі леглі ў аснову мастацкай кінастужкі "Маёр Віхр".

Пасля вайны Аляксей Бацян працуе ў цэнтральным апараце знешняй разведкі, не раз прыцягваўся да выканання складаных і адказных заданняў за мяжой, адыграў не апошнюю ролю ў вырашэнні Карыбскага крызісу ў 60-я гады мінулага стагоддзя. Узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і Айчыннай вайны І ступені, шматлікімі медалямі, а таксама нагрудным знакам "Ганаровы супрацоўнік дзяржбяспекі". А ў маі 2007 года яму прысвоенае званне Героя Расійскай Федэрацыі.

Ужо будучы ў сталым узросце, Аляксей Мікалаевіч заставаўся маладым па духу, падтрымліваў выдатную фізічную форму. У 2012 годзе на многіх расійскіх тэлеканалах дэманстраваліся кадры, як 95-гадовы мужчына гуляе ў валейбол, займаецца спартыўным бегам. Але асабліва ўразіла, як ён страляе. "Я ніколі не цэліўся, – гаворыць Аляксей Мікалаевіч. – Проста адчуваў рэвальвер, як працяг рукі. І ніколі не мазаў..."

Аляксей Бацян заўсёды з цеплынёй успамінае сваю радзіму, любіць бываць на Валожыншчыне, сустракаецца са сваякамі, наведвае магілкі.

Падчас аднаго з візітаў у Валожын Аляксей Мікалаевіч ехаў у якасці пасажыра з унукам свайго дзядзькі Змітрука, таксама Змітруком (Дзмітрыем) Трапашкам, які жыве ў Маскве. Ведаючы, што яго будуць чакаць і суправаджаць супрацоўнікі дзяржбяспекі, прапанаваў пасваволіць і "адарвацца" ад іх.

І гэта старому разведчыку з лёгкасцю ўдалося".

### Мой дзядзька – маёр Віхр

Так склалася, што ў нашай рэдакцыі працуе пляменніца "маёра Віхра" – **Марыя Бераснева.**

Ад яе мы і даведаліся, што пільнасць і ўважлівасць да кожнай драбязы, а Марыя Бераснева стыль-рэдактар газеты, – гэта ў іх сямейнае.

– Я нават і сына свайго назвала ў гонар дзядзькі, – прызнаецца Марыя Браніславаўна.

Бачылася яна са сваім дзядзькам не часта, усяго пяць разоў за ўсё жыццё.

– У сям'і раней ніхто не ведаў, што дзядзька разведчык. Усё ж было засакрэчана. І да сёння ўжо з прэсы, кніг і фільмаў я працягваю дазнавацца пра новыя падрабязнасці з жыцця свайго сваяка.

У дзень юбілею Марыя Бераснева тэлефанавала ў Маскву, каб павіншаваць свайго дзядзьку. Аляксей Мікалаевіч паабяцаў, што і сёлета абавязкова прыедзе наведаць свае родныя Чартавічы.

Падрыхтавала Наталля ТУР.




З першага погляду, інтэрнэт-крамы ў жыцці беларусаў займаюць не апошняе месца: 8% ад пошуку прыходзіцца на іх. Але гэта пераважна айчынныя інтэрнэт-крамы. Чаму? Таму што замежную пасылку трэба аплаціць. Аплата ідзе праз плацежныя сістэмы. А плацежныя сістэмы шукаюць толькі 1,6% карыстальнікаў.

І варта звярнуць увагу на топ-20 пошуку сайтаў. Міжнародная крама з пасылкамі Ali Express знаходзіцца толькі на 10-м месцы. А вось айчынны агрэгатар інтэрнэт-крамаў і тавараў Onliner – шосты па запытах. Міжнародная інтэрнэт-барахолка Ebay – увогуле апошняя ў спісе.

**Паводле infographer.by.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 9.02 | 16.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9225 | **1,8650** |
| Еўра | 2,0490 | **1,9716** |
| Злоты, 10 | 4,7438 | **4,5783** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2304 | **3,2805** |
| Грыўня, 100 | 7,1376 | **6,9177** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 8.02 і 15.02** | | |
| Еўра | 2.0300/2.0500 | **1.9600/1.9970** |
| Долар ЗША | 1.9050/1.9230 | **1.8550/1.8820** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **8.02** | **15.02** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 8:02 на рынку не працавалі кілбасны і малочны павільёны. | **15,99** |
| Сасіскі, 1 кг | | **6,98** |
| Куранят-бройлер, 1 кг | | **3,29** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | **4,18** |
| Селядзец, 1 кг | 5,38 | **4,08** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,75** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 4,30 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **7,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,45** |
| Морква, 1 кг | 0,60 | **0,55** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **1,00** |
| Лімоны, 1 кг | 3,00 | **3,70** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,10 | **2,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,90 | **2,60** |
| Гранаты, 1 кг | 3,62 | **3,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,20 | **3,90** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,45** |
| Памідоры, 1 кг | 3,80 | **4,00** |
| Агуркі, 1 кг | 4,90 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 5,90 | **6,50** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Вінаград, 1 кг | 3,70 | **3,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,35 | **1,00** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,10 | **3,10** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 8:02 на рынку не працавалі кілбасны і малочны павільёны. | **1,50** |
| Масла, 1 кг | | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | | **3,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **-** |
| Яйкі, 1 дзясятак | - | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | - | **6,00** |

**Філіял ВУ “Маладзечнагаз” інфармуе**

# Асцярожна, чадны газ!




**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак трэба ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

У сувязі з паніжэннем тэмпературы паветра павялічваецца верагоднасць абмярзання агалоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў для адводу прадуктаў згарання ад газавых праточных воданагравальнікаў, ацяпляльных катлоў і апаратаў. Штогод на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей чадным газам.

Пры згаранні газавага паліва пры недастатковым паступленні паветра (закрытая фортка, няспраўная вентыляцыя) у выніку няпоўнага згарання выдзяляецца чадны газ (СО), які пры рабоце газавага ацяпляльнага абсталявання ідзе ў спецыяльныя дымавыя каналы (коміны). Пры іх няспраўнасці прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне. У выніку гэтага можа адбыцца атручэнне чадным газам. Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца хуткадзейнай атрутай.

**Як выявіць чадны газ?**

**Для гэтага выкарыстоўваюцца спецыяльныя дэтэктары чаднага газу.**

Устанавіце **дэтэктары чаднага газу (датчык СО)** на кожным паверсе вашага дома, паблізу спальных пакояў, каб своечасова папярэдзіць пра небяспеку.

Звяртаем вашу ўвагу, што **пажарныя апавяшчальнікі (датчыкі дыму), датчыкі (прыборы) выяўлення ўцечкі бытавога газу не выяўляюць чадны газ.**

Нагадваем, што наяўнасць ў паветры 1% чаднага газу – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Зімой гэта можа прывесці да абмярзання агалоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх закаркоўвання і, як вынік, – пранікнення чаду ў памяшканне.

Сярод усіх жыццёвых каштоўнасцяў, несумненна, самай важнай з'яўляецца само жыццё. Задача кожнага чалавека – берагчы жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, нагадваем:**

• дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, а зімой рэгулярна аглядаць агалоўкі названых каналаў для прадухілення іх абмярзання;

• дымавыя і вентыляцыйныя каналы належыць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

• **ацяпляльнага газавага абсталявання** – незалежна ад матэрыялу, з якога яны выраблены, – перад ацяпляльным сезонам

• **праточных газавых воданагравальнікаў** – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны выраблены: цагляныя – не радзей за адзін раз у тры месяцы; азбасцэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў гарачаўстойлівага бетону – не радзей за адзін раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавае абсталяванне, **абавязаныя** выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць;

- забараняецца ўключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;

- перад распальваннем катла ці воданагравальніка неабходна абавязкова праверыць наяўнасць цягі ў коміне (вентыляцыйным канале);

- памяшканне, у якім устаноўленыя газавыя прыборы, павінна рэгулярна праветрывацца;

- забараняецца устанаўліваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы;

- забараняецца пакідаць без нагляду ўключаную газавую пліту;

- забараняецца сушыць рэчы над полымем газавай гарэлкі;

- забараняецца карыстацца газавым абсталяваннем, якое эксплуатуецца больш за 20 гадоў.

**За парушэнне “Правілаў карыстання газам у побыце”**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнская арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за няспраўны стан газавага абсталявання, вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, за парушэнне патрабаванняў бяспекі пры карыстанні газавым абсталяваннем ускладаецца на наймальніка або ўласніка жылых памяшканняў і дамоў.

**Паважаныя абаненты, ніколі не грэбуйце правіламі бяспекі. Паклапаціцеся пра захаванне свайго жыцця і жыцця сваіх родных.**

ВУ "Маладзечнагаз".
УНП 100008077

## Здымаю псоту з дапамогай яйка і ручніка. Як махляр падмануў ільянскую медсястру

ВІЛЕЙКА

У вілейскую міліцыю звярнулася жанчына, у якой махляр падманам забраў 50 рублёў.

Жанчына жыве на Вілейшчыне, прыязджае на працу ў ільянскую бальніцу.

У адзін з дзён, калі медсястра была на працы, у бальніцу зайшоў мужчына. Ён сказаў, што дрэнна сябе адчувае, спытаў у медсястры, дзе знайсці доктара.

Пачалася размова. Незнаёмец задаваў пытанні, уваходзячы ў давер да жанчыны.

Нарэшце ён паведаміў медсястры пра тое, што на яе блізкіх навалі псоту. І ў бліжэйшыя дні з кімсьці з членаў яе сям'і павінна здарыцца нешта кепскае. Жанчына захвалявалася.

Аднак незнаёмец супакоіў яе.

**Сказаў, што ён можа зняць псоту. Для гэтага патрэбныя два яйкі і ручнік. А яшчэ спецыяльная кніга, якая каштуе 50 рублёў.**

Яйкі і ручнік знайшліся хутка. А грошы жанчына пазычыла ў сваіх калег. Незнаёмец усё гэта забраў і сышоў, быццам бы здымаць псоту.

Праз некаторы час жанчына расказала пра здарэнне калегам. Тыя растлумачылі, што незнаёмец падмануў яе.

Тады жанчына звярнулася ў міліцыю. У Следчым камітэце ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Махлярства". Незнаёмца пакуль не знайшлі.

Пра гэта расказаў начальнік аддзела крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Туман і абгон. Сутыкнуліся "Сеат" і "Хундай"

ВАЛОЖЫН

Адбылося гэта каля 7:40 раніцы 10 лютага на 62-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Ашмяны-мяжа Літвы. На тэрыторыі Валожынскага раёна 50-гадовы жыхар Гродзенскай вобласці на аўтамашыне "Сеат-Альхамбра" ехаў у напрамку Мінска.

Быў туман. Падчас абгону ва ўмовах недастатковай бачнасці кіроўца не ўпэўніўся ў бяспецы манеўру і выехаў на паласу сустрэчнага руху, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці. Аўтамабіль сутыкнуўся з іншамаркай "Хундай-Тэракан". Ёй кіраваў 59-гадовы жыхар Брэсцкай вобласці.

У выніку кіроўцу "Сеата" з сур'ёзнымі траўмамі шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне Валожынскай цэнтральнай раённай бальніцы. Кіроўцы былі прышпіленыя рамянямі бяспекі.

Аддзел інфармацыі.

## Як на Вілейшчыне помнікі з могілак зніклі, а потым знайшліся

ВІЛЕЙКА

Увечары 12 лютага ў міліцыю паведамілі, што з вясковых могілак у Вардамічах на Вілейшчыне нехта скраў два помнікі.

Міліцыя пачала праверку. Аказалася, што ўдзень адзін з вяскоўцаў пілаваў на могілках дрэва.

Калі дрэва звалілася, яно пашкодзіла два помнікі. Мужчына вырашыў самастойна іх адрамантаваць.

Для гэтага ён забраў помнікі з могілак. Праўда, нікому нічога не сказаўшы.

Пра гэта расказаў начальнік аддзела крымінальнага вышуку вілейскага РАУС Дзмітры Антановіч.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Да свайго 29-годдзя не дажыў жыхар Астраўца. Яго пераехаў аўтамабіль

АСТРАВЕЦ

Недарэчнае здарэнне, якое скончылася смерцю, адбылося ў Астраўцы 12 лютага.

Перад здарэннем кампанія маладзёжы выпівала. Калі гарэлка скончылася, трое вяскоўцаў прычапілі да матаблока воз і паехалі на ім у суседнюю вёску.

На дарозе кола малагабарытнага трактара адвалілася, і адзін з удзельнікаў мерапрыемства сказаў, што пойдзе шукаць каня.

Пайшоў па яго, аднак паблізу вёскі Міхалішкі лёг на праезную частку дарогі.

Там каля трох гадзін ночы яго пераехаў аўтамабіль "Аўдзі".

Да свайго 29-годдзя мужчына не дажыў шэсць дзён.

Узбуджаная крымінальная справа.

Паводле ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.




Фота Наталлі ТУР.

Інспектар Маладзечанскай ДАІ Сяргей Бартош раніцу не любіць, але менавіта ў гэты час ДАІ павінна быць асабліва пільнай, бо пешаходы і вадзіцелі спяшаюцца на працу.

# Інспектар ДАІ: я ненавіджу час ад 7:30 да 8 раніцы

МАЛАДЗЕЧНА

У панядзелак, у 7:30 раніцы, ДАІ сумесна з аддзелам адукацыі райвыканкама зладзіла дзяжурства на пешаходных пераходах паблізу школ.

Настаўнікі 2, 8, 11, 14 школ на паўгадзіны сталі сапраўднымі інспектарамі дарожнага руху.

Узброіўшыся знакамі "STOP" і апрануўшы святлоадбівальную камізэльку, яны дапамагалі перайсці дарогу школьнікам.

Нагадвалі кіроўцам пра неабходнасць спыняцца ля пешаходных пераходаў, якія не рэгулююцца.

Ад ДАІ суправаджаў педагогаў інспектар **Сяргей Бартош**.

Ён расказаў "Рэгіянальнай газеце", што сам не любіць час ад 7:30 да 8 раніцы:

– У гэты час на маладзечанскіх дарогах робіцца нешта неверагоднае: усе спяшаюцца, сігналяць, абганяюць адзін аднаго. Дзеці, школьнікі перабягаюць перад машынамі, кіроўцы забываюцца спыняцца на пераходах. Таму, вядома, такія акцыі неабходна праводзіць, каб яшчэ раз нагадаць усім удзельнікам дарожнага руху пра неабходнасць выконваць правілы.

Сяргей Бартош сказаў, што сёлета ў Маладзечанскім раёне ўжо здарыўся выпадак, калі на дарозе пацярпела дзіця.

### За тыдзень ДАІшнікі аштрафавалі 216 пешаходаў і 47 вадзіцеляў

Пра тое, як у раёне прайшла акцыя "Пешаход" і для чаго ДАІ "ізымаць" пешаходаў з праезнай часткі, "Рэгіянальнай газеце" расказаў начальнік Маладзечанскай ДАІ **Дзмітры Юркевіч.**

– Акцыя "Пешаход" праводзілася ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне ў канцы студзеня. Канешне, гэта была запланавая акцыя, але, як паказвае практыка, ДТЗ усё часцей адбываюцца з удзелам або па віне пешаходаў.

Дзмітры Юркевіч нагадаў, што ад пачатку года ў Маладзечанскім раёне здарылася некалькі сур'ёзных аварый з пешаходамі.

У двары па Вялікім Гасцінцы вадзіцель, калі рухаўся заднім ходам, не заўважыў 73-гадовую пенсіянерку, што ішла каля машыны, і наехаў на яе. Жанчына атрымала пераломы.

У канцы студзеня ў вёсцы Цюрлі вадзіцель наехаў на дзяўчынку, што пераходзіла дарогу па пешаходным пераходзе.

А ў пачатку лютага на вуліцы Міру пасажырка сталага веку ўпала ля задніх дзвярэй аўтобуса, а вадзіцель ад'ехаў ад прыпынку.

– Падчас акцыі, якая праходзіла 23-30 студзеня, супрацоўнікі ДАІ прыцягнулі да адказнасці 216 пешаходаў за тое, што пераходзілі праезную частку дарогі ў неналежным месцы, а таксама 47 кіроўцаў, якія не прапусцілі пешаходаў на пешаходным пераходзе. Усе парушальнікі былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

Дзмітры Юркевіч расказаў "Рэгіянальнай газеце", што ў лютым плануецца сур'ёзная акцыя па адпрацоўцы дарог "на предмет изъятия с проезжей части дороги пешеходов".

– Вось вы смяецеся з фармуліроўкі, а для ДАІ – гэта сур'ёзная праблема. Летась у Алёхнавічах і Крыніцы былі выпадкі, калі загінулі пешаходы з-за таго, што яны сядзелі або ляжалі на дарозе. Асабліва гэта актуальна ў сельскай мясцовасці. Нашы супрацоўнікі рэгулярна сустракаюцца з такой з'явай, як гэта ні сумна. Таму ДАІ просіць усіх, хто ўбачыў падобныя выпадкі, паведамляць пра гэта па тэлефоне 102.

Наталля ТУР.

## За адзін дзень узбудзілі тры крымінальныя справы за захоўванне наркотыкаў

МАЛАДЗЕЧНА

У мінулы аўторак, 7 лютага, Маладзечанскі РАУС і УУС Мінскага аблвыканкама правёў спецмерапрыемства, у выніку якога былі затрыманыя тры жыхары горада.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавёў старшы следчы Маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**:

– Супрацоўнікі аддзела па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі двух мужчын затрымалі ў іх аўтамабілях у горадзе.

Пры адным з іх, 33-гадовым непрацуючым маладзечанцы, было 1,78 грама марыхуаны.

Другога мужчыну, 46-гадовага маладзечанца, таксама затрымалі ў аўтамабілі. Пры ім быў 1 грам марыхуаны.

Яшчэ аднаго раней судзімага маладзечанца, які таксама нідзе не працаваў, супрацоўнікі міліцыі затрымалі па месцы жыхарства. У яго кватэры знойдзены 62 грамы марыхуаны.

Супраць усіх трох узбуджаная крымінальная справа. Мужчынам пагражае да пяці год зняволення.

Наталля ТУР.

# “Мама, хачу гэта, купі-і-і!”

## Як хадзіць у краму з дзецьмі без істэрык і непатрэбных пакупак

**Ці не кожны з нас быў сведкам падобнай сцэны ў краме: дзіця, што ўчапілася жалезнай хваткай у цацку або нешта салодкае, і мама, якая ў каторы раз вырашае, як правільна паводзіць сябе ў такой сітуацыі.**

Ігнараваць або не псаваць сабе нервы і купіць? Правесці тлумачальную размову з дзіцем? Сказаць, што няма грошай? А можа, паабяцаць купіць у наступны раз?

Дзіцячы псіхолаг **Наталля Масюкевіч** адказвае на актуальнае пытанне: як не зрабіць са сваіх дзяцей спажыўцоў?

### Бацькі купляюць цацкі дзецям ці... сабе?

Жадаем мы таго ці не, але кожны з нас з'яўляецца спажыўцом: мы ходзім у крамы і карыстаемся паслугамі. Але апошнім часам слова “спажывец” стала набіраць негатыўную афарбоўку, калі гаворка заходзіць аб звышспажыванні. Гэта сітуацыі, калі мы набываем штосьці, што не з'яўляецца жыццёва неабходным.

На працы выдаўся кепскі дзень? Пайду куплю новую сукенку, трэба ж сябе парадаваць. Дзіця не хоча ісці да доктара? Паабяцаем яму новую цацку. Праблема звышспажывання з'яўляецца ў дарослых і перадаецца дзецям.

Хто з бацькоў часам не прызнаваўся сабе, што вось гэту наварочаную чыгунку купіў не столькі сыну на дзень нараджэння, колькі самому сабе? Бо ў нашым дзяцінстве такога не было, цікава разабрацца і пагуляць.

А бабулі і дзядулі, якія з асуджэннем уздыхаюць, гледзячы на гару цацак у пакоі ўнука? Нельга так песціць дзіця! А на святы самі прыносяць новыя цацкі.

– Паводле апошніх даследаванняў, дзеці на 43% фарміруюць наш спажывецкі кошык, – кажа Наталля Масюкевіч. – Калі мама ідзе ў краму па ёгурт, то які яна купіць? Той, які падабаецца дзіцяці. І гэта тычыцца ледзь не ўсіх прадуктаў. Таму дзеці становяцца мэтавай аўдыторыяй маркетынгу.

### Раздзяліць “хачу” і “купі”

Дзіця, якое ў краме цягне рукі да нечага цікавага, звычайна так фармулюе свае думкі: “Мама, хачу гэты канструктар! Купі”. Менавіта ў такім парадку: спачатку “хачу”, а пасля – “купі”. Спадарыня Наталля перакананая, што сакрэт правільнай рэакцыі на просьбу дзіцяці хаваецца ў раздзяленні гэтых двух слоў.

– Часта бацькі, пачуўшы дзіцячае “хачу” ўжо прадчуваюць, што далей будзе “купі”, – тлумачыць псіхолаг. – Яны пачынаюць напружвацца і раздражняцца яшчэ да таго, як дзіця сфармулюе просьбу. Бацькі прыходзяць у баявую гатоўнасць і на аўтамаце кажуць “не” або “грошай няма”.

Псіхолаг раіць пазітыўна рэагаваць на першае слова дзіцяці – “хачу”. Хочаш? Цудоўна! Вельмі добра!

> **– Хаценне – гэта пачатак да дзеяння, руху наперад, галоўны рухавік усіх пераменаў у жыцці, – заўважае спадарыня Наталля. – Мэта хацення – рэалізаваць сваё жаданне, мару. Калі мы на “хачу” адразу адказваем “не”, то мы ламаем і крыўдзім дзіця. Насамрэч цудоўна, што яно нечага хоча і ўмее фармуляваць гэта.**

Але важна, каб “хачу” на практыцы не ператварылася ў заграбанне рэчаў з паліц. Тут ужо павінны дапамагчы самакантроль. Яго няма ў дзяцей двух-трох гадоў, таму ў такім узросце істэрыкі ў краме – нармальная з'ява, якую трэба перарасці.

– Тая зона мозга, якая адказвае за самакантроль, канчаткова будзе сфарміравана прыкладна да 14 гадоў, – кажа псіхолаг. – Да гэтага ўзросту дапамагаць дзіцяці ў самакантраляванні – планаванні, параўнанні атрыманага выніку з задуманым – мусяць бацькі.

### Ідзяце ў краму з дзіцем – накіньце паўгадзіны часу

Калі дзіцяці 4-10 гадоў пасля пазітыўнай рэакцыі на яго “хачу” павінны ісці пытанні. Навошта табе гэта? Што ты будзеш з гэтым рабіць? Што табе дасць новая рэч? Гэтымі пытаннямі вы дапаможаце дзіцяці зразумець яго жаданні і патрэбы. Такія размовы патрабуюць часу, таму будзьце гатовыя яго знайсці.

Пасля “хачу” ўзнікне і запаветнае слова “купі”. Калі бацькі пазітыўна адрэагавалі на “хачу”, то “купі” будзе не патрабаваннем, а просьбай. Рэагаваць на яе прасцей. Калі ж бацькі ўжо пасля “хачу” выказалі катэгарычнае “не”, то пакрыўджанае дзіця ідзе ў атаку і будзе настроенае больш катэгарычна.

Наталля Масюкевіч рэкамендуе:

> **Пасля слова “купі” даць час: добра, я цябе пачула, давай мы купім спачатку прадукты, па якія мы прыйшлі, а я за гэты час падумаю. Па-першае, дзіця можа проста забыцца аб сваім жаданні.**

– Па-другое, можна прыцягнуць яго ўвагу нечым іншым, – тлумачыць псіхолаг. – У аддзеле садавіны звярнуць увагу на яго любімую: глядзі, якія спелыя бананы, твае любімыя! Бяром? Але давай выберам нешта адно: бананы або той канструктар.

Хутчэй за ўсё выйграе страўнік. Візуальны вобраз цацкі ўжо будзе размыты, а садавіна будзе перад вачыма, да таго ж яна пахне.

Абмяжоўваючы дзіця ў спантанных пакупках, важна не перагнуць палку. Калі дзіця абгрунтоўвае сваё жаданне, часам варта яго здзейсніць. Ці час ад часу рабіць пакупкі, якія выбіраюць дзеці: сёння ў нас ёсць 10 рублёў, выбірайце, што хочаце.

Наталля Масюкевіч падкрэслівае, што ўсе апісаныя прыклады – гэта не інструкцыя да дзеяння, якая працуе ў 100% выпадкаў. У кожнай сям'і ўсё вельмі індывідуальна. Але парады псіхолага могуць дапамагчы пад іншым ракурсам паглядзець на сітуацыю і самастойна пашукаць іншага выйсця.




Часам звычайны паход у краму з дзецьмі можа ператварыцца ў цяжкае выпрабаванне для бацькоў.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com

### Што трэба ведаць, ідучы з дзецьмі ў краму. Парады дзіцячага псіхолага

**1. Не кажыце “няма грошай”.**

Гэта фраза фарміруе комплексы і думку аб тым, што сям'я бедная. Калі не хочаце нечага купляць, лепей сказаць, што няма наяўных, што грошы ёсць, але сёння мы трацім іх на іншае.

**2. Малым дзецям прапануйце выбар.**

Дзецям 3-5 гадоў цяжка адказаць на адкрытае пытанне тыпу “што будзеш на абед?”. Дапамагайце дзіцяці, кіруючы яго жаданнем, але пры гэтым пакідаючы прастору для выбару: “Будзеш курыцу з макаронай ці салатай?”, “Купім такую куртку, але сінюю ці чырвоную?”.

**3. Не выкарыстоўвайце пакупкі як спосаб матывацыі.**

Лепей як мага радзей казаць фразы тыпу “вывучыш верш ці прыбярэшся ў пакоі – купім ляльку”. Няхай узнагародай будзе дзеянне, якое любіць дзіця. Вывучыш верш – пойдзем на лыжы. Прыбярэш у пакоі – будзе месца, пагуляем у кіндары.

**4. Схема “адну купім – адну аддадзім”.**

Калі ваша кватэра ператвараецца ў склад цацак, можна прапанаваць дзіцяці такую схему: мы купім новую цацку пры ўмове: адну з тых, што ўжо ёсць, аддадзім суседцы (у дзіцячы дом, стрыечнай сястры). Няхай дзіця само выбірае, ці гатовае яно аддаць і што менавіта.

**6. “Хачу парасон як у Машы”**

Калі жаданне тлумачыцца толькі тым, што дзіця хоча быць да некага падобным, то задача бацькоў – адбіць “шумы” і дапамагчы дзіцяці зразумець сваё жаданне. Задавайце як мага больш пытанняў. Што табе спадабалася? Ты хочаш такі ці меншы? Якога колеру? Дзе ты будзеш яго насіць?

**5. Вядзіце блакнот жаданняў.**

Гэта парада тым, чым дзецям 5-7 гадоў. Няхай дзіця вядзе блакнот, у якім запісвае ўсе свае жаданні. Выконвацца яны павінны па парадку, але самае жаданае трэба запісваць пад пунктам №1.

Па-першае, запіс – гэта фізічны высілак, таму імгненныя жаданні тыпу жуйкі будуць адсейвацца. Пры гэтым бацькі ў краме будуць мець аргумент: ты зараз захацеў жуйку, але мы выконваем толькі тыя жаданні, якія прайшлі праз блакнот.

Па-другое, дзіця навучыцца асэнсоўваць свае жаданні і выбіраць самае важнае. Цікава назіраць, як дзеці жанглююць жаданнямі, у залежнасці ад настрою перапісваючы першы пункт.

– Мая дачка аднойчы перакрэсліла ўвесь спіс у блакноце і напісала толькі адно слова – “котка”. Тады мы з мужам зразумелі, што ўсё сур'ёзна, – з усмешкай прыгадвае спадарыня Наталля.

# "Майсей Коля"

## У Расіі здымуць мастацкі фільм пра Мікалая Кісялёва, подзвіг якога пачынаўся ў Даўгінаве

ВІЛЕЙКА

**"Рэгіянальная газета" неаднойчы пісала пра Мікалая Кісялёва, які выратаваў 218 яўрэяў з Даўгінава.**

Пра яго подзвіг знялі дакументальны фільм, выдалі кнігу. У Даўгінаве яго імем назвалі вуліцу, а ў роднай Башкірыі ўсталявалі помнік. А цяпер у Расіі запусцілі ў вытворчасць мастацкі фільм "Майсей Коля". Прадзюсар і рэжысёр праекта **Сяргей Бялошнікаў** расказвае, што яго зачапіла ў гісторыі Кісялёва, як працавалі над сцэнарыем і ці будуць здымаць каля Даўгінава.

**Да лета 1942 года з пяці тысяч яўрэяў з даўгінаўскага гета ў жывых засталося толькі 278. Гэта былі пераважна старыя, жанчыны і дзеці. Выратаваў 218 з іх партызан Мікалай Кісялёў, які вывеў яўрэяў за лінію фронту. Ад канца жніўня да кастрычніка па акупаванай тэрыторыі людзі прайшлі больш за 1500 кіламетраў.**

"Я часта Вас успамінаю, як Вы пераносілі мяне на мыліцах, бо ў мяне не было адной нагі" (з ліста Якава Рубіна Мікалаю Кісялёву).

"Памятаю, як Кісялёў выратаваў яшчэ адну дзяўчынку з сям'і Крэмерау, якой было 3-4 гады. Яна ўвесь час плакала і прасіла есці. Мы баяліся, што з-за яе нас знойдуць немцы... Аднойчы дарослыя вырашылі, што яе трэба забіць, інакш загінуць усе. Маці завяла яе ў рэчку, каб утапіць. Дзяўчынка, напэўна, штосьці зразумела і сказала маме, што больш не будзе плакаць і стане слухацца дарослых. Людзі стаялі ля іх і плакалі разам з бацькамі. У гэты час падышоў Кісялёў. Зразумеўшы ўсё, узяў дзяўчынку на рукі і ўсю дарогу нёс. Ён аддаваў ёй свой хлеб. І на руках у партызана дзіця не плакала" (з успамінаў Шымона Хеўліна).

### Усё пачалося з нататкі ў інтэрнэце

У 2011 годзе Сяргей Бялошнікаў наткнуўся ў інтэрнэце на невялікую нататку пра Мікалая Кісялёва.

– Там толкам нічога не было напісана, акрамя самога факту аб яго подзвігу – выратаванні 218 беларускіх яўрэяў у 1942 годзе. Пачаў шукаць далей і натрапіў на дакументальны фільм "Спіс Кісялёва". Потым знайшоў яшчэ трохі матэрыялаў пра яго: разрозненых і не вельмі інфарматыўных. Усё гэта і стала штуршком да стварэння кінапраекта.

**– Што вас зачапіла ў гісторыі Кісялёва?**

– Больш за ўсё зачапіла адна простая рэч – гэта галівудская гісторыя са шчаслівым канцом. Як правіла, гісторыі невядомага подзвігу ў час Вялікай Айчыннай вайны заканчваліся сумна: героі гінулі. А тут ёсць драма, ёсць герой і шчаслівы фінал. Гэта самае галоўнае. У мяне пытаюцца: "Пра што твой будучы фільм?". Я адказваю: "Гэта геразічны міф пра чалавека-героя і натоўп". Таму што ў нашым сюжэце (падазраю, што і сапраўды было так) ад самага пачатку яўрэі не верылі, што Кісялёў іх выведзе і ўратуе. Гэта былі адносіны героя і натоўпу, больш за тое, гэта такія адносіны строгага, але справядлівага бацькі і дзяцей. Таму фільм "Майсей Коля" – гэта геразічны міф пра Галакост, але не проста пра Галакост, а пра героя і Галакост. Фільм прысвечаны ўнікальнай чалавечай гісторыі, гэта ж цуд, што здарылася з імі.

### Сцэнарый пісаўся доўга і не проста

Над сцэнарыем працавалі расійскія сцэнарысты **Мікалай Велігжанін**, **Аляксей Дэкельбаум** і **Артур Офенгейм**. Ён пісаўся доўга і не проста.

**– З чым гэта звязана?**

– Па-першае, практычна не захавалася дакументаў таго часу пра подзвіг Кісялёва. Толькі ў мінулым годзе выдалі кнігу **Іны Герасімавай** "Марш жыцця. Як ратавалі даўгінаўскіх яўрэяў". Там дакументы пачалі ўсплываць. Таму, калі няма падрабязных дакументаў, ты павінны зразумець, як распавядзеш гэту гісторыю. Другое: пра Галакост знялі вельмі шмат фільмаў, але падобнага яшчэ не было. І нам трэба было вельмі сур'ёзна паглыбіцца ў гістарычны матэрыял: мы чыталі кніжкі, глядзелі фільмы, пералапацілі велізарную колькасць дакументаў, фатаграфій... Гэта – сур'ёзны матэрыял, і мы сур'ёзна да яго падышлі.

Цяпер сцэнарый ужо скончаны, толькі ўносяцца дробныя карэктывы.

**– Ці ўдалося сустрэцца з кім-небудзь з жывых удзельнікаў паходу?**

– Не. Таму што мы прынцыпова не хацелі гэтага рабіць. Справа ў тым, што тыя, хто дажыў да нашых дзён, яны былі зусім маленькімі дзецьмі падчас гэтага паходу. Яны ўвогуле практычна нічога не памятаюць, і тое, што яны расказваюць, ім распавялі бацькі. Мы хацелі пісаць сцэнарый з чыстым незамутнёным падыходам. Думаю, нічога новага яны б нам і не расказалі, тым больш ужо зняты дакументальны фільм "Спіс Кісялёва", дзе гэтыя людзі ўсім падзяліліся. І ў нас мастацкі фільм. Мы не здымаем дакументальнае кіно, кропля ў кроплю, як усё было.

### Здымкі плануюць пачаць у жніўні

Над праектам пачалі працаваць у 2011 годзе. Доўга ішлі пошукі фінансавання. У 2014 годзе з праектам выйшлі на пітчынг* у Фонд кіно Расійскай Федэрацыі. Але тады грошай не далі і адаслалі ў Міністэрства культуры. Атрымалася ўсё толькі летась: праекту выдзелілі дзяржаўнае фінансаванне.

**– Рэдкі выпадак: ў мінулым годзе на пітчынг ў Міністэрстве культуры прадстаўлялі адразу два фільмы пра Мікалая Кісялёва – ваш і праект "Праведнік". Як лічыце, чым выклікана такая цікавасць да яго асобы?**

– Таму што гісторыя Кісялёва – гэта грамадскі здабытак. Гэта як пра Сталінград – хочаце, вы здымайце, хачу, я здымаю. Самае галоўнае, чаму з'явілася цікавасць да гэтай гісторыі: гэта кіно не проста пра Галакост, такіх фільмаў вельмі шмат, гэта фільм пра рускага чалавека, які выратаваў яўрэяў. А такога фільма яшчэ не было. І мы былі першыя. За намі следам пайшлі іншыя.

Фільм запусцілі ў вытворчасць летась у кастрычніку. Працуе над ім кінакампанія "Альба Фільм". Цяпер ідзе падрыхтоўчы перыяд, які ўключае падбор артыстаў, складанне каштарысаў і гэтак далей. Ёсць ужо прэтэндэнт на ролю Кісялёва, і не адзін. Хто будзе іграць галоўнага героя – пакуль сакрэт.

Здымкі збіраюцца пачаць сёлета, у жніўні.

**– Ці плануеце штонебудзь здымаць каля Даўгінава або ўвогуле ў Беларусі?**

– Думаю, каля Даўгінава здымаць не будзем. Таму што ад таго Даўгінава, што было ў час вайны, нічога не засталося. А ці будзем мы здымаць у Беларусі, гэта залежыць ад вытворчых і фінансавых планаў. Альбо мы едзем у Беларусь і будзем карыстацца паслугамі мясцовых артыстаў і арганізацый, альбо здымаем у Расіі бліжэй да Беларусі, дзе прырода амаль такая ж. Дарэчы, мая мама нарадзілася ў Лукомлі, дзядуля-доктар там лячыў людзей. Для мяне Беларусь – таксама малая Радзіма.

### "Гэта наш абавязак памяці"

"Майсей Коля" – вельмі сур'ёзны праект для ўсіх яго ўдзельнікаў, запэўнівае Сяргей Бялошнікаў:

– Гэта не серыял, гэта – гульнявы фільм. І калі працую з аўтарамі, сустракаюся з артыстамі і членамі групы, кажу: "Хлопцы, зразумела, што здымаем кіно. Зразумела, што акрамя ўсяго іншага зарабляем грошы. Але гэты фільм, калі ўжо казаць высокім стылем, гэта наш абавязак памяці тым, хто выратаваў нашу краіну і ўсіх нас – рускіх, беларусаў, яўрэяў, украінцаў і гэтак далей. Калі б фашысты перамаглі, то нас з вамі ўсіх папросту не было б. Таму мы павінны аддаць доўг нашым дзядулям і бабулям, прадзедам і прабабкам, якія выжылі ў гэтай вайне".

– У самым канцы фільма будуць цітры: "Прысвячаецца памяці ўсіх савецкіх грамадзян, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны". Падкрэсліваю, памяці не салдат, а ўсіх грамадзян, якія загінулі ў гэтай страшнай вайне – усіх без выключэння.

Аляксей БАЛАХОВІЧ.



Помнік Мікалаю Кісялёву, што ўстаноўлены ў горадзе Благавешчанск у Башкірыі.



**Даведка "РГ". Сяргей Бялошнікаў** – расійскі сцэнарыст, прадзюсар, рэжысёр. Нарадзіўся ў 1952 годзе. Скончыў Ленінградскае мастацкае вучылішча імя В. Сярова, рэжысёрскі факультэт ВГІКа. Аўтар сцэнарыяў да фільмаў: "І ніхто на свеце ...", "У знак пратэсту", "Чаротавы рай", "Ай лав'ю, Пятровіч", "Кат", "След дажджу", "Поўня", "Бедная Саша" ды іншых. Рэжысёр і аўтар сцэнарыя фільмаў "Шчаслівая заставацца!", "Спрытнюга і Хіппоза", серыялаў "Клетка", "Поўня" і іншых. Аўтар чатырох раманаў, выдадзеных у Расіі і за мяжой.

* Пітчынг – прэзентацыя кінапраекта з мэтай знаходжання інвестараў, гатовых яго фінансаваць.



Першая пасажырка Ліда прызналася, што ў яе кватэры так холадна, што хоць ты дываном накрывайся.
Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

# Маладзечанцы маразоў баяцца меней, чым сесці ў чужую машыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі на мінулым тыдні слупок тэрмометра раптам апусціўся да мінус 15 градусаў, мы вырашылі забіць двух зайцоў адразу: і дапамагчы маладзечанцам, прапанаваўшы падвезці дадому, і правесці журналісцкі эксперымент.**

Аднак далёка не ўсе гараджане з ахвотай садзіліся ў машыну да дзвюх дзяўчат.

Адмаўляліся і хлопцы, і дзяўчаты. Нам адказвалі: "Навошта, праз 4 хвіліны будзе ісці "10-ка", "Адкуль такая добразычлівасць?", "Нашто вам гэта?", "Не, а мы нікуды не едзем".

На прыпынку ля музкаледжа стаяла сям'я: мама, тата, які трымаў на руках маленькую дзяўчынку. Мы настойліва прапанавалі ім не мерзнуць і сесці ў машыну.

Жанчына рашуча адказала: "Не". Тады мы яшчэ не называлі чароўнае слова "бясплатна", але і яно ніяк не падзейнічала.

Праз хвілін дзесяць мы зноў праязджалі той самы прыпынак, і сям'я па-ранейшаму чакала на марозе аўтобус.

А вось на прыпынку ля Лядовага палаца дзяўчына **Ліда** з задавальненнем села ў машыну:

– Ой, дзякуй вам вялікі. Вы бачылі, як на мяне на прыпынку людзі паглядзелі? 100% нехта сфоткаў і зараз запосціць у сацыяльныя сеткі з подпісам: "Дзяўчына села ў невядомую машыну, пасля таго, як ёй настойліва прапанавалі падвезці. Дзяўчынка, калі ты жывая, адгукніся".

Ліда прызналася, што на хвілінку задумалася, нашто яна села ў машыну, але вельмі ж холадна было стаяць.

– Раніцай я ўвогуле аўтобуса 15 хвілін чакала. Ён, напэўна, раней пайшоў.

Ліда працуе на "Каларыцы", сама з Чысці, у Маладзечне з хлопцам наймаюць кватэру.

– А на найманай кватэры так холадна! Хаваюся пад дзве коўдры і хоць ты яшчэ дываном накрывайся.

А раніцай прачынаюся з жахам ад таго, што зараз трэба высунуць руку і выключыць будзільнік.

Наступная наша пасажырка – **Людміла Міхайлаўна**, якая адпрацавала сакратаром маладзечанскага суда 24 гады, а цяпер ужо два месяцы як на пенсіі.

– Вы мяне ведаеце? – адразу спыталася яна. – Я шмат каго пазнаю візуальна, таму і села ў машыну, думала, знаёмыя нейкія.

Людміла Міхайлаўна адзначыла, што аўтобус на прыпынку чакала няздоўга. Змерзнуць не паспела.

Праўда, ёй і пад'ехаць трэба было два прыпынкі, так што мы асабліва і не паспелі спытаць, як жанчына ставіцца да зімы, да маразоў.

Затое **Аксана**, якая забірала 5-гадовага сына з дзіцячага садка, паспела расказаць, што **Ігнацік** ходзіць у 16-ы садок, бо там ёсць група, якая працуе круглыя суткі.

– Я выхоўваю сына адна, працую і ў начныя змены на камбінаце хлебапрадуктаў, сына няма з кім пакідаць, таму аддаю ў садок, дзе можна начаваць.

За некалькі чырвоных святлафораў, што сустрэліся на нашым шляху, Аксана паскардзілася, што працуе па размеркаванні і што інтэрнат ад работы ёй не даюць.

**– Зарабляю тры мільёны (недэнамінаваныя – рэд.) і амаль усё аддаю за кватэру.**

Аксана прыехала ў Маладзечна з Астраўца. Вярнуцца да бацькоў не можа: там няма арганізацый, дзе магла б адпрацаваць па размеркаванні. Ды і горад жанчыне спадабаўся, вось толькі востра стаіць кватэрнае пытанне.

З радасцю сеў у машыну і наш наступны пасажыр – псіхіятр **Мікалай** з дачкой **Кацяй**.

Яны з Кацяй ездзілі ў магазін. Па дарозе гаварылі пра работу Мікалая.

– Я працую пераважна з прызыўнікамі, – расказвае мужчына, – з хлопцамі 16 гадоў.

І ведаеце, мяне здзіўляе, што з пяці апытаных двое не ведаюць, з якога боку ўзыходзіць сонца і з якімі краінамі суседнічае Беларусь.

А Каця расказала, што зіму яна любіць, бо можна катацца на санках. А яшчэ сказала, што ў садку ў іх цёпла.

Спрабавалі мы падвезці і хлопцаў. Не пагадзіўся ніводны.

Спытаўся ў нас адзін з іх:

– Гэта яшчэ нашто? Не, не трэба мяне падвозіць. Вы сабе далей едзьце.

А яшчэ мы заўважылі, што перад намі часта праходзілі аўтобусы, якія забіралі патэнцыйных пасажыраў.

Таму, пераканаўшыся, што феміі быць лёгка, накіраваліся ў бок рэдакцыі.

А што скажаце вы? Ці селі б у машыну да дзвюх незнаёмых дзяўчат ?

Наталля ТУР,
Зоя ХРУЦКАЯ.




Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" шчыра віншуе Аляксандра Уладзіміравіча Харытона з юбілеем, жадае бадзёрасці духу і цікавых знаходак.

# Аляксандр Харытон: ён не чакае зручнага часу для ўчынку

МАЛАДЗЕЧНА

**Краязнаўца Аляксандр Харытон з Краснага адзначае 80-годдзе ў суботу, 18 лютага.**

Пра яго распавядае загадчык навукова-метадычнага аддзела Мінскага абласнога краязнаўчага музея аўтар кнігі "Красненскія таямніцы" **Сяргей Старыкевіч**:

– У Красным жыве каля трох тысяч чалавек. Харытон будзе ў першай дзясятцы красненцаў, каго ведае кожны мясцовы жыхар.

Упершыню мы сустрэліся ў 1960-я гады. Я тады быў малы, а каля яго дома быў дом маёй цёткі. Я гасцяваў у яе. Здаецца, Аляксандр якраз вярнуўся пасля службы. Такі дужы, загарэлы, з мора прыехаў. І ўзяў мяне на рыбалку. Такі першы ўспамін.

Пасля ён нейкі час жыў і працаваў у Мінску, і наша знаёмства прыпынілася.

Год з 15 таму сазваніўся са мной, прапанаваў сустрэцца. Завітаў у музей. Часта мы з ім размаўляем, абмяркоўваем тое, што цікавіць абодвух. З кожнай сустрэчай быў усё больш дасведчаны, усё больш дазнаваўся.

З месяц таму сустрэўся з Аляксандрам Уладзіміравічам у Красненскай школе – нас абодвух запрасілі выступіць перад вучнямі. А надвор'е было брыдкае, дажджлівае, яму трэба было ісці праз усю вёску, Магчыма, хтосьці б адмовіўся ад такога, ды тым больш у 79 год. Але толькі не Харытон. Ён актыўны і абавязковы.

Ён заўсёды размаўляе па-беларуску – і дома, і з усімі. Часам гэта дастаўляе нязручнасці – напрыклад, абвінавачваюць у нацыяналізме. Але ён стаіць на сваім.

У нас нярэдка бываюць спрэчкі, не па ўсіх пытаннях пагаджаемся адзін з адным ці маем аднолькавы погляд. Але павага да яго бясспрэчная.

Асаблівай павагі заслугоўвае тое, што краязнаўца не проста вывучае гісторыю Краснага, адшуквае згубленыя звесткі. Ён набытымі ведамі спрабуе палепшыць рэчаіснасць. Напрыклад, знайшоў у Красным магілу апошняга "каліноўца" **Ігната Абрамовіча**. Аднавіў надпіс на помніку. Адрамантаваў помнік, уладкаваў магілу. Прычым рабіў усё гэта зімой, абуўшы валёнкі. Сказаў, што не можа чакаць да вясны.

У першую чаргу яго цікавіць Краснае, крыху даследуе Мясату, Алёхнавічы, Канчаны.

Тэмы, якія даследуе, – паўстанцы Каліноўскага, ваеннапалонных і Галакост. Калі ў Краснае прыязджаюць яўрэі, іх адпраўляюць да Харытона, каб расказаў гісторыю падзей.

Мая кніга адбылася дзякуючы падбухторванням Аляксандра Уладзіміравіча. Казаў, што ідзе час, трэба шукаць, трэба працаваць. Я цяпер разумею, наколькі гэта важныя словы. Ёсць людзі, з якімі варта было б сустрэцца, а іх цяпер няма.

Аляксандр Уладзіміравіч добры гаспадар. Можа, ёсць і багацейшыя дамы, але яго гаспадарка заўсёды дагледжаная. На пенсіі ён вярнуўся з Мінска ў Краснае. Адрамантаваў бацькоўскі дом, займаецца пчоламі. А гады з два таму пачаў садзіць новы сад у двары. Мяне ўразіла: і наколькі ж мудрым трэба быць чалавекам, каб пад 80 гад садзіць сад.

Хто разумее, той цэніць тое, што ёсць такая асоба. Гэта наш гонар, што такія людзі, як Харытон, ёсць, а як было б добра, каб такія краязнаўцы былі ў кожнай вёсцы.

Я жадаю яму моцнага здароўя, новых адкрыццяў, дабрабыту ў сям'і, а таксама сустрэць больш салідны юбілей, трохзначны.

Падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ.

# Ураджэнец Вілейшчыны стаў "Чалавекам года культуры"

ВІЛЕЙКА

**8 лютага назвалі пераможцаў рэспубліканскага конкурсу "Чалавек года культуры".**

Народнага артыста **Міхаіла Казінца**, які нарадзіўся ў вёсцы Цынцавічы на Вілейшчыне, прызналі лепшым у намінацыі "Музычнае мастацтва".

Цырымонію ўзнагароджання пераможцаў рэспубліканскага конкурсу правялі ў Палацы мастацтваў у Бабруйску, які прыняў статус культурнай сталіцы Беларусі 2017 года.

Тут міністр культуры **Барыс Святлоў** уручыў узнагароду галоўнаму дырыжору Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча народнаму артысту Міхаілу Казінцу.

Вілейскі паэт **Мікола Кутас** прыгадаў, што даведаўся пра знакамітага земляка, калі паглядзеў дакументальны фільм пра дзяцінства і юнацтва музыканта.

– Асабліва запомніліся кадры, – успамінае паэт, – калі музыкант стукае ў акно пустой будыніны і кажа: "Вось тут, за шыбамі школьнага будынка, праходзіла мая маладосць". Тады ж захацелася бліжэй пазнаёміцца з творчасцю гэтага чалавека. Бо створанае ім – не толькі здабытак Вілейскага краю, але і скарб душы для кожнага чалавека.

Асоба і творчасць музыканта настолькі ўразілі вілейскага паэта, што ён прысвяціў яму верш.

Кіраўнік узорнага калектыву аўтарскай песні "Імпэт" **Галіна Кутас** распавяла, што Міхаіл Казінец не забывае сваю малую радзіму, часта бывае ў Вілейцы з канцэртамі.

Галіне Віктараўне пашчасціла прысутнічаць у Вілейцы на рок-оперы "Песня пра долю", прысвечанай **Уладзіміру Мулявіну**. Там Міхаіл Казінец выступаў як дырыжор. Выступленне сабрала поўную залу людзей у гарадскім Палацы культуры.

А яшчэ ён некалі дапамог Галіне Кутас. Праз яго жанчына перадала свае вершы кампазітару **Леаніду Захлеўнаму**. А той напісаў да іх музыку.

Па словах Галіны Кутас, музыканта заўсёды засмучае, калі на канцэртах гучыць мала песень на беларускай мове.

**Даведка "РГ". Міхаіл Казінец** нарадзіўся ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага раёна ў 1938 годзе. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе оперна-сімфанічнага дырыжыравання. Ад 1972 года пачаў працаваць у Нацыянальным аркестры Беларусі. Ад 1975 года і па цяперашні час узначальвае гэты калектыў. Працу галоўнага дырыжора на працягу доўгага перыяду часу сумяшчаў з выкладчыцкай дзейнасцю ў якасці прафесара Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, медалём Францішка Скарыны. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры і прэміі "За духоўнае адраджэнне".

Аксана ЯРАШОНАК.


Фота ctv.by

Міхаіл Казінец, галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя Жыновіча.


Фота забяспечана Аксанай ЯРАШОНАК.

Ілья, 1950-я гады. Сям'я Камінскіх у садзе ля хаты. Пётр і Зінаіда Камінскія і іх дзеці злева направа: Мікалай, Валянціна, Леанід.


Фота забяспечана Аксанай ЯРАШОНАК.

Хата Камінскіх у Ілы сёння.

# Сцены, ганак, вокны, дах, або Гісторыя хаты

ВІЛЕЙКА

**Нашай вясковай хаце ў Ілы амаль 50 год. Тут нарадзіўся мой бацька Мікалай Камінскі, яго сястра Валянціна і брат Леанід.**

Паўстагоддзя і для чалавека ўзрост паважаны, і для хаты не малы. Карацей, гэта ўжо гісторыя, пра якую можна расказаць.

### Сцены

Кажуць, дома і сцены дапамагаюць. А каб пабудаваць гэтыя самыя сцены, трэба дрэва. Бярвенне на нашу хату дзядуля **Пётр Камінскі** прыдбаў так.

У часы вайны ў Ілы аднаму вяскоўцу партызаны спалілі хату. Немцы ж далі яму дрэва, каб пабудаваўся. Тым часам вайна скончылася. А чалавек хату ўсё не будаваў: баяўся, што ад савецкай улады не абярэцца тады праблем з "нямецкім" дрэвам.

У 1946 годзе дзядуля пасля вайны і шпіталяў вярнуўся дамоў у Ілью і жыў у бацькоўскай хаце. Акрамя дзядулі, там жылі яшчэ яго маці, старэйшы брат **Аляксандр** з жонкай і трыма сынамі і яшчэ адзін нежанаты дзядулеў брат **Іван**.

Усе мужчыны ў сям'і **Камінскіх** былі добрымі краўцамі. Асабліва гэта справа ўдавалася старэйшаму брату Аляксандру.

Неяк той чалавек, якому немцы далі дрэва на хату, зайшоў да Камінскіх нешта сабе пашыць. У кампаніі зайшла гутарка пра будаўніцтва. Дзед сказаў, што добра было б пабудавацца, але дзе дрэва ўзяць. І той чалавек, пачуўшы яго, прапанаваў купіць тыя небяспечныя "нямецкія" бярвенні.

Купіць – гэта добра. Але дзе ўзяць грошы ўдзельніку і інваліду вайны? Тады дзядуля са старэйшым братам вырашылі заняцца своеасаблівым бізнесам. Восенню браты набылі жыта, а вясной прадалі яго ў разы даражэй. Калі надыходзіў "галодны" час, за жыта плацілі больш.

З'явіліся грошы. І пачалося будаўніцтва новай хаты.

Дом узводзілі на былым яўрэйскім надзеле. У часы вайны немцы яўрэяў знішчылі, а хаты іх спалілі. Таму і дзядуля, і шматлікія суседзі будаваліся там, дзе некалі стаялі яўрэйскія хаты.

Дзед паставіў сваю хату на надзеле, дзе раней жыла сям'я **Смалерчукоў**.

> **Відаць, небагатыя яўрэі былі тыя Смалерчукі, жартуе часам бацька. Ні золата, ні каштоўных рэчаў за ўсё жыццё каля хаты не знайшлі.**

Да 1960-х гадоў сцены былі з бярвенняў. Чакалі, каб хата дала ўсадку, тлумачыць бацька. А калі прыйшоў час, вясковы сталяр **Канстанцін Грымоць** прыйшоў шаляваць хату. Шаляваў вельмі акуратна, кожную дошчачку прымяраў па некалькі разоў. А я вазьмі ды і пажартуй, успамінае бацька:

– Што вы так робіце, быццам сабе.

На што тут жа ад свайго бацькі атрымаў па вуху. Не заўважыў адразу, што дзед побач стаяў.

### Ганак

Якая ж хата без прыгожага высокага ганка? Спачатку ў хаце не было веранды. Тады ганак быў з дошак. У сярэдзіне 1960-х пабудавалі веранду. І якраз у той час на скрыжаванні ля ільянскага касцёла і помніка Пілсудскаму разбіралі стары яўрэйскі, яшчэ даваенны, барак.

Сярод розных патрэбных і непатрэбных рэчаў аказаўся добры ганак з цэменту. Дзед даў вясковым мужыкам тры літры гарэлкі, і яны прыцягнулі ганак у двор. Сёння па яго прыступках у дзядулеву хату я падымаюся ўжо са сваімі дзецьмі.

### Дах

У 1940-х гадах у Ілы дахі крылі траской. З сасны або асіны выразалі маленькія дошчачкі і ўкладвалі іх на дах. У 1960-я пачалі выкарыстоўваць шыфер. Нашу хату сельсавет накрыў шыферам адной з першых, бо дзядуля быў удзельнікам і інвалідам вайны.

### Столь

Доўгі час столь была проста з дрэва. Былі відаць бэлькі – драўляныя брусы, што трымаюць столь. Аднак палічылі, што больш прыгожа будзе, калі гэтыя бэлькі схаваць. Столь абшылі сухой тынкоўкай.

У 2000-х бацька вырашыў вярнуцца да ранейшай столі з бэлькамі. Тынкоўку адарвалі, столь памылі. Пад адной бэлькай знайшлі небяспечную нямецкую брытву, якой галіўся дзядуля.

### Вокны

Шмат гадоў у хаце стаялі тыя вокны, што рабілі, калі будавалі хату. Вокны рабіў самы лепшы ў Ілы сталяр з прозвішчам **Буркевіч**. Цікава тое, што для іх сталяр не скарыстаў ніводнага цвіка.

Якія ўспаміны яшчэ ў бацькі, звязаныя з вокнамі? Амаль ніякіх. Акрамя хіба таго, што калі медсястра прыходзіла рабіць дзецям прышчэпкі, яны хуценька выскоквалі ў акно і ўцякалі. А там – на аселіцу і да ракі.

Драўляныя вокны на пластыкавыя памянялі ўжо ў 2000-х. Калі здымалі старыя рамы, дрэва было, як казаў бацька, "жывое": негнілое, здаровае, нават смалістае.

### Сад

А вось сад крыху старэйшы за хату. Яго дзед пачаў садзіць, як толькі атрымаў надзел. Садзіў яблыні-дзічкі і прышчапляў да іх галінкі. Так прыблізна ў 1946 годзе ў двары ля хаты з'явіліся антонаўкі і папінкі. Бацькі не могуць нарадавацца, як праз 50 год яны плоданосяць і добра захоўваюцца.

На сад у сваім дзяцінстве неяк спакушаўся бацька. 6-7-гадовым хлопчыкам ён узяў сякеру і пачаў секчы адну з яблынь, якая, па яго словах, "надта добра секлася". Сякеру адабралі, бацьку пакаралі. А яблыня засталася.

### І на заканчэнне

Калі дом ужо быў амаль пабудаваны, ён ледзь не згарэў. Недзе ў суседнім двары быў моцны пажар. Але на дапамогу дзядулю прыйшлі сябры. Яны ўжо залезлі на дах з вёдрамі вады і сядзелі напагатове. Аднак бяда хату абышла.

Бацька не раз заўважаў, што дзядуля, інвалід вайны без адной рукі, адразу пабудаваў хату, а толькі потым ажаніўся. Сучасным юнакам, на яго думку, варта кіравацца такімі прыкладамі.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Герб князёў Гальшанскіх і землі колішняй Маладзечанскай вобласці

**Былая Маладзечанская вобласць у прыблізных межах да 1954 года складае досыць арганічны рэгіён і многімі ўспрымаецца ў такой якасці. Аднак, здаецца, не мае прыроджанай сімволікі.**

З гістарычных тэрытарыяльных адзінак яна найбольш перагукаецца, бадай, з Ашмянскім паветам ВКЛ. Але нават калі не зважаць на геаграфічныя несупадзенні, у таго павета ўсё адно не было адметнага герба. Харугва, калі верыць "Апісанню абедзвюх Сарматый", рознілася ад ваяводскай адно колькасцю хвастоў.

Пры абмеркаванні магчымай сімволікі для рэгіёна цяжка не вярнуцца думкай да Кітаўруса, кентаўра Гальшанскіх князёў. Паспрабую прадставіць кароткую апалогію гэтай ідэі, якая наведвала, імаверна, досыць многіх.



Герб Паўла Гальшанскага ў Stemmata Polonica з публікацыі 1926 года. У першай чвэрці – герб Гальшанскіх, у астатніх – гербы іншых продкаў Паўла – Алелькавічаў, Судзімонтавічаў, Манівідаў.

### Антычнае паходжанне

Пачнём з таго, адкуль гэты герб бярэцца. Складзеная ў пачатку 16 стагоддзя хроніка прыпісала Кітаўрусу старажытнарымскае паходжанне і сувязь з першымі вялікімі князямі Літвы. Гэта легенда мела поспех і паспрыяла распаўсюджанню герба. Напрыклад, ім сталі карыстацца Гедройцы, якія да таго ўжывалі герб "Ружа".

**Але ў папярэднім, 15 стагоддзі Кітаўрусам карыстаўся, гледзячы па ўсім, толькі адзін род – князі Гальшанскія.**

Найчасцей лічыцца, што праслаўленню герба ў легендзе паспрыяў іх сваяк – уплывовы ўраднік **Ольбрахт Гаштаўт**, сын гальшанскай княжны. Першымі, хто стаў змяшчаць на пячатках кентаўра яшчэ за часамі Вітаўта, былі сыны **Івана Альгімонтавіча** – князі **Сямён** і **Міхаіл Гальшанскія**. Іх бацька меў на пячатцы іншую выяву – чалавечую постаць. Адкуль сыны ўзялі таго кентаўра, адгадаць цяжка.

Вобраз гэты родам з антычнасці, яго аднолькава лёгка знайсці ў сярэднявечным мастацтве як заходнееўрапейскіх краёў, так і, напрыклад, Ноўгарада ці Пскова. Пэўны час Гальшанскія, відаць, лічылі сваёю эмблемай кентаўра ўвогуле: на трох найстарэйшых выявах у кентаўраў розніцца і выгляд, і зброя.

**Пазней замацаваўся звыклы нам варыянт: кентаўр цэліць з лука ў змяю, што расце з ягонага ўласнага хваста.**

Ад 16 стагоддзя захавалася каляровая выява, герб біскупа **Паўла Гальшанскага** ў геральдычным рукапісе Stemmata Polonica: у блакітным полі кентаўр на зялёным узгорку. Рукапіс гэты цяпер захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Францыі (нумар 1 114 са збораў Бібліятэкі Арсенала). Змест яго з чорна-белымі рэпрадукцыямі і славеснымі апісаннямі колераў выдадзены ў 1926 годзе і лёгка шукаецца ў інтэрнэце.

### Распаўсюджанне Кітаўруса

Князі Гальшанскія, хаця апошнія з іх і памерлі яшчэ ў 16 стагоддзі, аказваюцца ўдалым аб'яднаўчым сімвалам для рэгіёна, пра які мы вядзём гаворку. Апроч Гальшанаў, асобныя прадстаўнікі рода тытуляваліся па Трабах, Лебедзеве і, магчыма, Вязыні. Праз жаночую лінію іх Кітаўрус трапіў і ў складаныя гербы апошніх Гаштаўтаў, "парадніўшыся" такім чынам з Геранёнамі, Астраўцом ды Валожынам.

Дарэчным для гэтых краёў здаецца і тое, што ў родзе суіснавалі ў добрай згодзе, наколькі можна судзіць з дакументаў, праваслаўная і каталіцкая галіны. Прычым першая дала свету шанаваную святую, а другая значнага біскупа.

### Кентаўр у сінім полі – адметны сімвал

Калі вырашыць, што сімвал рэгіёна падыходзіць, то нас чакае прыемны сюрпрыз. Хаця Кітаўрус і трапіў у многія сучасныя гербы – Гальшанаў і Старых Дарог у Беларусі, Сесікай у Літве, – ніхто, здаецца, датуль не скарыстаўся варыянтам з сінім, а не чырвоным колерам поля.

Хаця менавіта сіняе поле мы бачым на той старой каляровай выяве герба, якая адносіцца яшчэ да саміх Гальшанскіх, а не да родаў, якія пераналі герб пазней. Значыцца, кентаўр у сінім полі можа стаць не толькі дарэчным, але і адметным сімвалам.

### Васільковы вянок і мядзведзь

На заканчэнне, пасля стольких сухіх звестак, дадам некалькі больш вольных думак.

**Калі захочацца абвіць шчыт вянком у стылі гербаў абласцей, згадаем, што валошка ў антычнасці звязвалася з кентаўрамі і нават завецца па-лацінску centaurea.**

Лепшага вянка для герба з кентаўрам за васількова-валошкавы не знайсці. Калі ж спатрэбяцца трымальнікі для шчыта, тут можна згадаць пра мядзведзя, які коратка пабыў у 19 стагоддзі на гербе Ашмянаў, а цяпер красуецца на Смаргонскім.

У якасці асноўнай рэгіянальнай эмблемы мядзведзь трывала асацыюецца з досыць блізкаю Жамойцю, але ў якасці трымальніка можа прыдацца і ў іншых краях. Гэта, зрэшты, болей думкі ўголас, чым прапановы.

А вось Кітаўруса, думаецца, можна супольна прыняць усур'ёз.

**Антон Францішак БРЫЛЬ.**

---

18 ЛЮТАГА

**120 гадоў** з дня нараджэння **Фёдара Пагуды** (1897, г. Вілейка – 12.03.1957), генерал-маёра, удзельніка трох войн.

**95 гадоў** з дня нараджэння **Міхаіла Савіцкага** (1922 – 2010), беларускага мастака-жывапісца, народнага мастака Беларусі, народнага мастака СССР, Героя Беларусі (2006).

19 ЛЮТАГА

**80 гадоў** назад (1937) Надзвычайным 12 Усебеларускім з'ездам Саветаў прынятая Канстытуцыя БССР (у адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР 1936 г.).

20 ЛЮТАГА

70 гадоў з дня нараджэння (1947) **Валерыя Мазынскага**, беларускага рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. У 2010 годзе зняў дакументальны фільм "Як пошуг маланкі" пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху Расціслава Лапіцкага.

21 ЛЮТАГА

**70 гадоў** з дня нараджэння (1947) **Міхаіла Фінберга**, беларускага дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, народнага артыста Беларусі.

22 ЛЮТАГА

**85 гадоў** з дня нараджэння (1932) **Івана Міско**, скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, народнага мастака Беларусі. Працуе ў галіне станковай і манументальнай скульптуры. Ён адзін з аўтараў помніка Максіму Танку ў Мядзеле.

СЁЛЕТА

**180 гадоў** назад нарадзілася **Каміла Марцінкевіч** (Асіповіч) (1837 – 1880), піяністка, кампазітар, педагог, удзельніца рэвалюцыйнага руху ў Беларусі ў 1860-я гады, дачка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. У пачатку 1860-х жыла ў мястэчку Гарадок на Маладзечаншчыне, дзе арганізоўвала школы для дзяцей беднаты, адначасова праводзіла вялікую нацыянальна-асветную дзейнасць сярод беларускага сялянства. Выступала з канцэртамі ў Мінску, Слуцку, Кіеве, Варшаве. Уваходзіла ў тэатральную трупу бацькі. У 1852 годзе брала ўдзел у паказе ў Мінску першай беларускай оперы "Сялянка". Першы раз была арыштаваная ў 1861 годзе і змешчаная ў псіхіятрычную бальніцу. Зноў арыштаваная ў 1863 годзе і сасланая ў Салікамск Пермскай губерні. У ссылцы ўзяла шлюб з доктарам Асіповічам. Вярнулася на радзіму ў 1880-х. Памерла пасля гэтага года ў Вільні.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# У Швецыі на вокнах няма фіранак і да гэтага часу там 20 стагоддзе

МАЛАДЗЕЧНА

**На пытанне, ці хацела б я жыць у Швецыі, упэўнена б адказала – не. А вось прыязджаць сюды зноў і зноў, каб адкрываць для сябе гэту загадкавую скандынаўскую душу, хочацца.**

Аднак першае ўражанне ад Швецыі – расчараванне.

Уяўляеце, для іх Карлсан – адмоўны персанаж. І як нам расказала наш экскурсавод, Карлсана яны лічаць не шведам:

– Ён, хутчэй за ўсё, беларус: прыляцеў, нашкодзіў і зляцеў.

Таму ў Стакгольмскіх крамах вы не знойдзеце магніцікі з выявай Карлсана. А на доме, дзе жыла **Астрыд Ліндгрэн** і дзе месціцца быццам той самы дах, на якім жыў гэты "мужчына ў росквіце сіл", няма нават шыльдачкі.

Затое Піпі Доўгай Панчохай шведы ганарацца.

А я стала ганарыцца шведамі пасля наведвання аднаго з пабаў.

Было гэта ў сераду, якую мясцовыя жыхары называюць "маленькай пятніцай".

**Шведы лічаць, што ў сераду працоўны тыдзень пераваліў за экватар і ёсць нагода адзначыць гэту справу.**

У пабах можа быць бязлюдна ў аўторак ці чацвер, але толькі не ў сераду.

Вольных месцаў проста няма: у пабе збіраюцца кампаніі, якія гуляюць у настолкі, салідныя мужчыны пад гальштукамі, якія, відаць, зайшлі ў паб толькі пасля працы, маладыя пары з дзецьмі. Маці калыша немаўля ў вазку, пакуль стыне яе гарбата. Пажылая пара корміць свайго сабачку бульбай фры са стала.

У шведскіх пабах трэба ўважліва глядзець пад ногі, бо можа здарыцца, што каля стойкі бара расцягнецца які-небудзь лабрадор. Так-так, бо ў пабы пускаюць з хатнімі жывёламі. А як жа, у гаспадара "маленькая пятніца", а ў хатняга гадаванца не свята?

Цяпер пра кухню.

**Самым дзіўным было тое, што мяса і катлеты яны ядуць… з варэннем. Проста ў талерку з асноўнай стравай кладуць лыжку брусьнічнага варэння.**

Канешне, у шведаў ёсць шмат чаму павучыцца або нешта пераняць.

Мне, прынамсі, вельмі спадабалася тое, што яны не завешваюць вокны. Абсалютна.

На кожным падваконні стаяць настольныя лямпы, якія не выключаюць нават на ноч.

Як нам расказвалі мясцовыя, гэта традыцыя адсылае да старажытнасці, калі на падваконне ставілі свечкі, каб выпадковы падарожнік не заблудзіў і заходзіў на агеньчык.

Мая суседка па пакоі вечарам закрывала вокны начнымі шторамі:

– Не, я не шведка, не магу з адкрытымі вокнамі спаць.

Дзівачка, а я змагла б.

### Стакгольмскае метро – гэта мастацкая галерэя

Што яшчэ здзівіла ў Швецыі, дык тое, што паўсюль: у магазінах, у бібліятэках і іншых установах абавязкова на сцяне вісіць дыфібрылятар на той выпадак, калі каму-небудзь з наведнікаў стане блага.

Але калі трохі па-чорнаму пажартаваць, то наведнікам крамы можа зрабіцца кепска ад цэн, якія яны тут пабачаць.

І вось што дзіўна: пра сэрца ў шведскіх магазінах думаюць, а вось пра фізіялагічныя патрэбы? У любым гандлёвым цэнтры ў прыбіральню ўваход платны.

**Ведаеце, колькі каштуе паслуга скарыстацца туалетам? Адзін еўра.**

Швецыя – краіна дарагая. Булка хлеба каштуе 4 еўра, а праязны на месяц – 80 еўра.

Канешне, скажаце вы, што там параўноўваць. У іх заробкі іншыя. Я не параўноўваю, я канстатую факт, што з нашымі заробкамі ў Швецыю можна ехаць толькі любавацца морам.

Яшчэ трэба ведаць гасцям Швецыі, што тут на выхадных не прадаюць спіртное. Увогуле. У супермаркетах можна купіць піва, якое ўтрымлівае не больш за 3,5% алкаголю, а за больш мацнейшымі напоямі трэба ісці ў спецыяльны дзяржаўны "алкагольны" магазін.




Каля музея гурта "АББА" можна сфатаграфавацца ў вобразе кагосьці з гурта. Я прымерала на сябе брунетку Ані.



Гэта скульптура месціцца ля Стакгольмскай ратушы, дзе праходзіў Нобелеўскі банкет. Хто ведае, можа ў архіве Святланы Алексіевіч ёсць такое ж фота.



Адна са станцый Стакгольмскага метро адсылае вас у пячору горнага караля. І чаканне поезда можна параўнаць з наведваннем мастацкай галерэі.

Але калі вы ўсё ж запланавалі культурны адпачынак, то магу параіць вам наведаць музей аднаго карабля – музей Ваза.

Я не буду апісваць усю гісторыю гэтага карабля, але цікава тое, што той карабель патануў у 1628 годзе, пратрымаўшыся на вадзе літаральна 15 хвілін.

Новы карабель спусцілі на ваду, ён адплыў ад берага і тут жа, на 333 гады, затануў.

У 17 стагоддзі, сказалі б у нас. А ў Швецыі не так. Па іх падліках, карабель затануў у 16 стагоддзі. Так, і цяпер у іх ідзе дваццатае стагоддзе. Лічаць яны іх па першых дзвюх лічбах года.

Таму, калі марыце вярнуцца ў мінулае, то вам – у Швецыю.

Чым яшчэ цікавы музей? Мяне здзівіў шведскі падыход да справы.

У 1960-х гадах карабель, які 300 гадоў ляжаў пад вадой, паднялі на паверхню. Ён за гэты час увабраў у сябе вады ў чатыры свае вагі.

І як думаеце, што рабілі скрупулёзныя шведы?

**Яны 18 гадоў сушылі гэты карабель фенамі!**

Ну, і можаце ўявіць сабе маштабы гэтага музея, калі ён цалкам прысвечаны аднаму караблю. На паверхню яго паднялі ў 60-х гадах, а музей адкрылі ў 1990 годзе.

Музей рыхтавалі да адкрыцця 30 гадоў, а з метро шведы вырашылі не замарочвацца і зрабілі яго проста ў скале.

І правільна зрабілі, бо стакгольмскае метро лічыцца адным з самых прыгожых у свеце.

Стакгольмскае метро называюць самай доўгай мастацкай галерэяй, бо станцыі аддалі афармляць мастакам. Вось яны і афармілі: і ў стылі авангардызму, і быццам станцыя – гэта пячора горнага караля, і так, быццам станцыю сваімі калякамі-малякамі размалёўвалі дзеці.

Калі хочаце параду перад паездкай у Швецыю, то магу параіць абуваць лёгкі і зручны абутак. Таму што гуляць па Стакгольме давядзецца многа.

Не прапусціце ніводнай драбязы, і гэтых успамінаў вам хопіць на год наперад.

**P.S.** А яшчэ Швецыя – мая краіна і таму, што ў мяне вельмі шведскае прозвішча. Па-шведску слова "тур" перакладаецца як удача.

**Наталля ТУР.**

**Фота забяспечанае аўтарам.**

ТЭМА НУМАРА

# Каб не араць у хаце і не хадзіць па пустых сцежках, вучыце беларускую мову

**21 лютага – Дзень роднай мовы. Як вы адзначыце яго? Напрыклад, мы вырашылі прыгадаць для вас некалькі жыццёвых гісторый, звязаных з беларускай мовай.**

**Гісторыя 1: Малпачка – гэта так пяшчотна**

У **Ірыны** бацька быў вайскоўцам. Сям'я доўгі час жыла ў Расіі, а пасля пераехала ў Беларусь. Тут Ірына знайшла сваё жаночае шчасце. Пазнаёмілася з вілейскім хлопцам **Уладзімірам**. Не прайшло і года, як закаханыя пажаніліся.

Уладзімір пачаў называць маладую жонку Малпачкай. Ірыне так падабалася гэта слова. Здавалася такім цёплым і пяшчотным. Але да пэўнага часу...

Аднойчы на працы жанчыны загаварылі пра каханне і сям'ю. Захацелася падзяліцца сваім шчасцем і Ірыне:

**– А ведаеце, дзяўчаты, мой муж мяне так кахае! Ён называе мяне Малпачкай.**

Калегі пасмяяліся і далі Ірыне першы ўрок беларускай мовы.

Напэўна, з гэтага часу жанчына зразумела, што трэба вучыць мову той краіны, дзе жывеш.

**Гісторыя 2. Араць? Што, у хаце?**

I гэта гісторыя з Вілейшчыны. Малады салдат **Іван Іваноў** з Разанскай вобласці пасля Вялікай Айчыннай вайны застаўся ў Беларусі. I прыйшоў наймацца на працу да аднаго гаспадара.

Гаспадар запрасіў салдата ў хату, агледзеў яго і пытаецца:

– А ці ўмееш ты, хлопец, араць?

Іван неяк дзіўна паглядзеў на гаспадара і спытаў:

– Што, прама ў хаце?

**Гісторыя 3. Размаўляй са мной па-беларуску**

Некалькі год таму да аднаго вядучага беларускага тэлебачання звярнуліся з пытаннем. Пытанне прагучала на рускай мове.

Але вядучы нацыянальнага тэлебачання, вядома ж, быў патрыётам.

I з пагардай пагляздзеўшы на субяседніка, сказаў:

**– Звяртайцеся да мяне па-беларуску! Мне так вудобнее.**

**Гісторыя 4. У працяг тэмы пра "вудобнее"**

Не так даўно дзяўчынка **Юля** прыйшла дамоў са школы і расказала такую гісторыю:

– А ў нас сёння беларускую мову не наша настаўніца вяла. Але, напэўна, яна не настаўніца беларускай мовы, бо мне казала: "Садзіся, Юля. Очынь добра адказала". Я падумала, што гэта настаўніца рускай мовы. Толькі пасля таго, як яна сказала: "А давайте, дети, будем разговаривать по-русски. Так удабнее", я падумала, што яна ўвогуле не настаўніца.

**Гісторыя 5. Пра сведку Алену**

Алена была сведкай на вяселлі ў сяброўкі. На ўрачыстай цырымоніі ў ЗАГСе жанчына-рэгістратарка запрасіла дзяўчыну падысці да стала:

– А цяпер, сведка, падыдзіце, калі ласка, да стала і пастаўце свой подпіс.

Сведка не зварухнулася. "Ідзі, ідзі," – пачалі штурхаць госці Алену.

– А чаго я пайду, – не разумее дзяўчына, – я ж – Лена. А яна нейкую Светку запрашае.

**Гісторыя 6. Масла такім не бывае**

Ізноў Вілейшчына. Вялікая Айчынная вайна.

У хату ўскоквае рускі салдат. Бачыць на стале міску з маслам. Падыходзіць, бярэ лыжку і проста з міскі пачынае есці масла. I кажа:

– Какое вкусное пюре!

Гаспадар-беларус ні разу не чуў пра такую дзіўную страву. Але дакладна ведае, што ў місцы ніякае не "пюре", а звычайнае масла.

– Што ты робіш? – крычыць ён нечаканаму госцю. – Гэта ж масла!

– Масло таким не бывает. Масло жидкое, – адказвае салдат, даядаючы "пюре".

**Гісторыя 7. Проста прыўкрасная**

У аўтабіяграфічнай кнізе "Знакі прыпынку" **Уладзімір Някляеў** згадвае такі эпізод.

Пісьменнік **Уладзімір Караткевіч** часта ўжываў слова "прыўкрасна".

Неяк калегі спыталі ў Караткевіча: навошта па-беларуску казаць "прыўкрасна". Гэта ж "калька" з рускай мовы, прычым не самая лепшая. Караткевіч падумаў і адказаў:

– А што, хіба кепска? Па-мойму, прыўкрасна.

**Гісторыя 8. Пра інстытут Горкага і ўніверсітэт Танка**

У 1990-я гады педагагічны інстытут імя Максіма Горкага стаў педагагічным універсітэтам імя Максіма Танка. У гэтыя часы тут на настаўніка вучыўся студэнт з Казахстана.

Здаўшы летнюю сесію, ён са спакойнай душой паехаў дадому ў сонечны Казахстан з інстытута Горкага. А вярнуўся восенню ва ўніверсітэт Танка.

Чытаў-чытаў ён новую шыльду ля цэнтральнага ўвахода, а пасля выдыхнуў:

– Ну, пераклалі дык пераклалі.

**Гісторыя 9. Як праз няведанне мовы "накруцілі" лішніх кіламетраў**

Неяк у савецкія часы дзяўчаты з правінцыі прыехалі ў Мінск па справах. Будынак, патрэбны ім, месціўся на вуліцы Шорнай.

Абышлі бедныя дзяўчаты ледзь не ўсю сталіцу, перачыталі безліч шыльдаў, а патрэбнай вуліцы так і не знайшлі.

**А там, дзе па ўсіх паказчыках павінна быць "Шорная", значылася чамусьці "Рымарская". Так ні з чым дамоў і вярнуліся.**

Пачалі жаліцца бацькам, якое ўсё незразумелае ў гэтай сталіцы. Але ж мама адной з дзяўчат растлумачыла, што "Рымарская" гэта і ёсць "Шорная", толькі па-беларуску. Шорнік – гэта чалавек, які робіць конскую вупраж. Па-беларуску ён называецца "рымар". Прыйшлося дзяўчатам ехаць у сталіцу другі раз.

**Гісторыя 10. Анлайн-перакладчык пачастуе смачнымі ведзьмакамі і пячэннем з вавёркамі**

Анлайн-перакладчыкі дапамагаюць нам эканоміць час. Выразаў кавалак рускага тэксту, закінуў у руска-беларускі перакладчык і... забірай гатовы беларускі тэкст.

Але досвед карыстання такімі рэчамі навучыў пільна правяраць тое, што наперакладаў гугл.

Мяркуем, што ведаюць пра гэта не ўсе вытворцы. Бо неяк наша калега купіла пячэнне, у складзе якога былі... вавёркі.

Так-так. Анлайн-перакладчык не разбіраецца, дзе стаіць націск. Вось і пераклаў рускае слова "белки" ў значэнні рэчыва не як "бялкі", а як "вавёркі".

Далей (у табліцы) прапануем вам яшчэ некалькі "перлаў" анлайн-перакладчыка.

Гісторыі сабрала



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99




У ільянскай школе дзеці вучацца па-беларуску.

Архіў "РГ".

| По-руску | Анлайн-перакладчык па-беларуску |
|---|---|
| Три ст. ложки муки | Тры ст. лыжкі пакуты |
| Кисть руки | Пэндзаль рукі |
| Дача взятки | Лецішча хабару |
| Вкусные колдуны | Смачныя ведзьмакі |
| Блещет | Ахвіцельна, прыўкрасна (адзін з варыянтаў) |

## Лепшыя снежныя снайперы – маладзечанцы

**МАЛАДЗЕЧНА**

6 лютага ў Маладзечне праходзілі абласныя занальныя спаборніцтвы сярод дзяцей і падлеткаў па біятлоне.

У спаборніцтвах прынялі ўдзел шэсць каманд, удзельнікам якіх павінна было споўніцца 15-16 гадоў.

Хлопцам і дзяўчатам упершыню давялося спаборнічаць па сапраўдных правілах біятлона: пераадолець на лыжах дыстанцыю ў адзін кіламетр, а затым дакладна трапіць у адкідныя мішэні з вінтоўкі. За кожны недакладны стрэл – 50 метраў штрафнога круга.

На занальным этапе перамагла каманда Маладзечанскага раёна.

Гонар каманды адстойвалі **Мікіта Загорскі і Антон Бурак** з сярэдняй школы №14, а таксама **Карына Лабыш** і **Тацццяна Андрыянава** з Радашкавіцкай сярэдняй школы.

Каманда-пераможца будзе адстойваць гонар раёна на рэспубліканскіх спаборніцтвах.

**Наталля ТУР.**



Фота molodechno.edu.minskregion.by

У занальных спаборніцтвах "Снежны снайпер" лепшай была каманда з Маладзечна.

● НАВІНЫ

## У Вілейцы правялі спаборніцтвы "Вілейская лыжня-2017"

**ВІЛЕЙКА**

Ва ўрочышчы Дубаўка зладзілі штогадовыя спартыўныя спаборніцтвы "Вілейская лыжня-2017".

Удзельнічалі супрацоўнікі ДРБУ-162, камбікормавага завода, хлебазавода, гаргазу, ЖКГ, завода "Буддэталі", прадстаўнікі аддзела адукацыі спорту і турызму Вілейскага райвыканкама.

Побач з дарослымі на лыжні былі вучні мацькаўскай школы і вілейскай гімназіі №2.

Мужчыны павінны былі прайсці на лыжах тры кіламетры. Жаночая дыстанцыя складала паўтара.

У выніку месцы размеркаваліся наступным чынам. У жанчын першай стала супрацоўніца райгазу **Паліна Станкевіч**. Сваю дыстанцыю яна прайшла за дзевяць хвілін. На другім месцы – **Наталля Ракса** з хлебазавода, на трэцім – **Жанна Вераміс**, работніца "Буддэталяў".

Сярод мужчын самым хуткім стаў **Андрэй Лазавік** з аддзела адукацыі, спорту і турызму. Тры кіламетры ён адолеў за 10 хвілін 33 секунды. На другім месцы **Максім Алексяёнак**, прадстаўнік "Буддэталяў", на трэцім **Дзмітры Навойчык** з ДРБУ-162.

Пра гэта распавяла дырэктар вілейскага фізкультурна-аздараўляльнага цэнтра "Сатурн" **Наталля Стаўская**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На кубку Ашмянаў па футболе перамаглі смаргонцы

**АШМЯНЫ**

Адкрыты кубак горада Ашмяны па футболе сярод дзіцяча-юнацкіх камандаў (2007-2008 гадоў нараджэння) адбыўся ў суботу, 4 лютага, на базе фізкультурна-аздараўленчага комплексу ў Ашмянах.

Удзел у футбольных спаборніцтвах прынялі пяць дзіцячых каманд: тры каманды "Арбіта", "Атлет", "Метэор" дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ Мінска, адна – са Смаргоні і каманда гаспадароў.

Кубак Ашмянаў па футболе забрала каманда ДЮСШ са Смаргоні. Другое месца – у каманды "Метэор" (ДЮСШ горада Мінска) і трэцяе – ДЮСШ Ашмяны.

**Аддзел інфармацыі.**

# Футбольны клуб "Іслач" больш не гуляе ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У футбольным сезоне-2017 Маладзечна зноў апынулася па-за бортам вышэйшай лігі.**

Кіраўніцтва футбольнага клуба "Іслач" прыняло рашэнне ў 2017 годзе гуляць на мінскім стадыёне "Камвольшчык".

Чаму клуб прыняў такое рашэнне, мы спыталіся ў яго дырэктара **Сяргея Мельнікава**:

– Рашэнне канчатковае. І асноўная прычына ў тым, мы думаем, што ў Мінску наведвальнасць матчаў каманды "Іслач" будзе большая.

Сяргей Мельнікаў, вядома, разумее, што маладзечанскіх гледачоў гэта навіна не ўсцешыць:

– Я разумею, што людзі прывыклі да футбола.

> **Але і наша сумленне чыстае. Мы заахвочвалі гледачоў, як маглі: і атракцыёны, і салдацкая каша.**

Зразумейце, у нас таксама ёсць абавязкі перад федэрацыяй па напаўненні стадыённай чашы. Маладзечанцы з гэтым напаўненнем не справіліся.

Калі яшчэ ў пачатку сезона футбол выклікаў ажыятаж, то ў кастрычніку трыбуны былі амаль пустыя.

З кіраўніцтвам стадыёна "Іслач" таксама развіталася мірна:

– Мяркуем, кіраўніцтва стадыёна на нас не крыўдуе. У любым выпадку, мы прыносілі маладзечанскаму стадыёну не толькі прыбытак, але і ўносілі пэўную разнастайнасць. Працаваць нам спадабалася. Работнікі стадыёна – працавітыя і адказныя людзі.

> **Ужо вядома, што сезон-2017 пачнецца 1-3 красавіка.**

– Нашы сапернікі нам вядомыя. Засталося толькі атрымаць ад федэрацыі канкрэтную дату, калі "Іслач" стартуе ў чэмпіянаце.

Футбольны клуб "Іслач" запрашае маладзечанцаў не забывацца пра каманду і прыязджаць на гульні ў Мінск. Тым больш, што і ў гэтым сезоне ў камандзе будзе гуляць наш зямляк **Уладзіслаў Фядотаў**.

**Наталля ТУР.**



Калаж Наталлі ТУР.

"До свиданья, наш ласковый Вулфи..."
Маскот, талісман, каманды "Іслач" пакідае стадыён у Маладзечне.

## Тры кіламетры – за 12 хвілін: 67-гадовы бягун з Маладзечна падзяліўся вынікамі спаборніцтва

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Маладзечанскі аматар бегу Васіль Лябецкі перамог у сваёй узроставай катэгорыі на дыстанцыі тры тысячы метраў.**

Гэту адлегласць бягун адолеў за 11 хвілін 51 секунду. Ад Маладзечна ён удзельнічаў адзін. Дапамог вялікі спартыўны досвед. Бегам маладзечанец займаецца больш за 45 год.

Адкрыты чэмпіянат краіны па лёгкай атлетыцы зладзілі ў крытым манежы ў Мінску. На спаборніцтвы, акрамя беларусаў, прыехалі ветэраны-лёгкаатлеты з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны.

Аказваецца, у спартсменаў "ветэранскі" ўзрост пачынаецца ў 35 гадоў. Ранавата, лічыць Васіль Лябецкі. Няхай бы хаця б з 50. Сам бягун удзельнічаў ва ўзроставай катэгорыі 65-70 год.

Праводзілі спаборніцтвы па розных практыкаваннях. Спартсмены скакалі ў даўжыню і вышыню, кідалі ядро, бегалі на адлегласць 30 і 60 метраў. Была і спартыўная пяцікіламетровая хада.

Сам спартсмен сваімі вынікамі задаволены. А калекцыя яго ўласных узнагарод папоўнілася чарговым медалём і сертыфікатам удзельніка.

Аднак, па словах бегуна, і канкурэнты былі дастойныя. Яго вельмі ўразіла моцная каманда, якая прыехала з Эстоніі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота забяспечанае Васілём ЛЯБЕЦКІМ.

Васіль Лябецкі з узнагародамі.



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Раздзел механікі, які вывучае рухі цел без уліку масы і ўплываючых сіл.
3. Біялагічна актыўнае рэчыва, якое выпрацоўваюць залозы ўнутранай сакрэцыі.
5. Пачуццё маральнай адказнасці за свае паводзіны.
7. З лацінскай – "спіца ў коле". Адрэзак, які злучае цэнтр акружнасці з якой-небудзь яе кропкай.
8. Быццам прызначаны лёсам.
9. Грудок сухой зямлі на нізкім ці балоцістым месцы, абраслы мохам ці травой.
10. Устаноўлены парадак паводзін.
13. Расліна, з каранёў якой здабываюць чырвоную фарбу.
14. Модная папулярная эстрадная песня.
15. Абарончая прамова ці тэкст, накіраваны на абарону таго, на што, як мяркуецца, будуць нападаць.
18. Роздум пра свой унутраны стан.
19. Гатоўнасць набыць тую ці іншую колькасць даброт у залежнасці ад іх цаны.
20. Самка цецерука.
22. Куставая дзікарослая ягадная расліна сямейства брусничных.
25. Найбольш развітая жывая істота, якая валодае дарам мыслення і маўлення.
26. Выдача чужога твора за свой.
28. "Падаючыя зоркі".
29. Туга па радзіме.
32. Першы брытанскі дамініён.
33. Згубная звычка Шэрлака Холмса.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. З лацінскай – "найменшае".
4. Сталіца Новай Зеландыі.
6. Раздроблены камень для будаўнічых работ.
11. Магутная зброя ў літаратуры.
12. Учынак, за які ганьбяць яго ўдзельнікаў.
15. Самы паўднёвы і самы высокі мацярык.
16. Матэрыяльны свет Сусвету.
17. Тайны агент вышуковай паліцыі.
21. "Errare humanum est" з лацінскай – чалавеку ўласціва…
23. Антынавуковы накірунак ў біялогіі, прадстаўнікі якога тлумачаць сутнасць жыцця дзеяннем звышнатуральных сіл, якія месцяцца ў самім жывым арганізме.
24. Чалавек, якому ўласцівае павышанае імкненне да задавальнення.
26. Кароткая вытворчая нарада.
27. Сталіцу якой краіны называлі горадам крыві ці логавішчам ільвоў.
30. Назва старажытных грэкаў.
31. Доўгі пусты ў сярэдзіне прадмет пераважна круглага сячэння.
34. У гэтай краіне існаваў лозунг "Тры гады ўпартай працы – дзесяць тысяч год шчасця", характэрны для курсу "трох чырвоных знамёнаў".
35. Твор пачынальніка натуралістычнага рэалізму Эміля Заля.

## Адказы на красворд з №6

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Закрэпка. 2. Джынсы. 5. Кунжут. 7. Ганчарня. 10. Наркоз. 12. Прыдатны. 15. Карцар. 16. Музыка. 22. Калапс. 24. Вязень. 25. Хутка. 26. Голуб. 27. Галёш. 28. Атака. 30. Неслух. 34. Савіцкі. 36. Габой. 37. Шчыты. 39. Мітра. 41. Аўтамабіль. 46. Дэкорум.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 3. Падзеж. 4. Жыгучка. 6. Зеніт. 7. Гарт. 8. Джакарта. 9. Ваенкамат. 11. Дарэшты. 13. Выдых. 14. Узорны. 17. Астрог. 18. Дэбют. 19. Оптыка. 20. Падзяка. 21. Знічка. 23. Заплюшчы. 24. Выпат. 25. Халява. 29. Апельсін. 31. Ласіха. 32. Абломаў. 33. Баскі. 35. Башмак. 36. Грошы. 38. Верашчака. 40. Віртуоз. 42. Штаны. 43. Драбіны. 44. Манускрыпт. 45. Дзяляга.

## ГАРАСКОП 17-23 ЛЮТАГА



**Авен.** Калі будзеце кіравацца прынцыпам, што вочы баяцца, а рукі робяць, то ў вас ніколі не будзе ўзнікаць ніякіх праблем. У вас ёсць сілы, навыкі і магчымасці для таго, каб пераадолець любыя перашкоды і асіліць любы шлях, трэба толькі ісці наперад і не спыняцца. Праявіце больш рашучасці.



**Цялец.** Час спрыяльны для навядзення дамашняй утульнасці, набыцця неабходных рэчаў у быце. Варта звярнуць увагу на сваё здароўе. Працэдуры, праведзеныя цяпер, у тым ліку і касметычныя, прынясуць эфект.



**Блізняты.** Магчымыя рознагалоссі ў сямейнай абстаноўцы, а таксама з асобамі супрацьлеглага полу. Цяпер неспрыяльны перыяд для нейкіх новых пачынанняў ці знаёмстваў. Не бярыцеся за тыя справы, якія для вас важныя ці могуць выклікаць эмацыйнае напружанне.



**Рак.** Гэты час добры для пазнання ўсяго новага, вывучэння навук ці сваёй асобы, самаўдасканалення. Не прымайце сур'ёзных рашэнняў адносна фінансавай абстаноўкі. Трымайце свае расходы пад кантролем.



**Леў.** Сітуацыя, якая апісваецца кароткай фразай: пан ці прапаў. Гэта будзе тычыцца грашовай сферы і звязаная з укладаннем сваіх сродкаў ці каштоўнай пакупкай.



**Дзева.** Праявіце ўважлівасць і вытрымку, сітуацыя цяпер не выносіць спешкі і мітусні. Калі што задумалі, то рабіце самі і не разлічвайце на іншых. А сама лепей – гэта прысвяціць час любімаму хобі ці заняцца самаразвіццём.



**Шалі.** Гэтыя дні спрыяльныя для рамантычных сустрэч. Вы будзеце карыстацца павышанай увагай з боку супрацьлеглага полу. Калі самастойна станеце праяўляць ініцыятыву, то ўласнае жыццё будзе даволі насычаным. Выдатны час для новых знаёмстваў і пачатку любоўных раманаў.



**Скарпіён.** Адзіная сфера, дзе можна сябе заняць, – інтэлектуальная. Можна заняцца творчасцю, да якой ляжыць душа, складаннем планаў і праўдзеннем разлікаў. А можна адпачываць, чытаць кнігі ці паглядзець які-небудзь добры фільм.



**Стралец.** Вас чакаюць новыя паездкі, сустрэчы, кантакты. Ваш мабільны тэлефон будзе званіць, не змаўкаючы. І вы шмат часу будзеце праводзіць у размовах з сябрамі, знаёмымі, раднёй, суседзямі. У выніку даведаецеся пра шмат якія навіны. Акрамя размоў, вы можаце паралельна праварочваць свае справы, вырашаць актуальныя пытанні з прыцягненнем іншых людзей сабе ў дапамогу.



**Казярог.** Магчымыя перажыванні, рознагалоссі і расставанні не такія і страшныя. Проста ваша шчасце знаходзіцца ў іншым месцы, і вам неабходна пакінуць тое, што вас турбуе, і спакойна, без болю ў сэрцы, пайсці далей. Памятайце: дарогу асіліць той, хто ідзе. Не варта спыняцца на паўшляху.



**Вадалей.** Займіцеся сваім унутраным светам. Адмоўцеся ад сустрэч і вечарынак, ад новых перажыванняў і пачуццяў. Вазьміце сабе эмацыйны адгул. Для вас гэта будзе карысным дзеяннем, бо нічога важнага і каштоўнага цяпер не будзе адбывацца. Звярніцеся ўнутр сябе, там вы зможаце знайсці ўсе неабходныя адказы.



**Рыбы.** Прысвяціце час сабе, сваіх жаданням, марам. Пашукайце ўнутраную гармонію, папесціце сябе. Адключыце разумовы працэс і дазвольце сабе ні пра што не думаць. Ні ўва што не ўмешвайцеся. Так вы ўзновіце свае сілы, знойдзеце дарогу да сябе.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 | | -1 | | 0 | | -1 | |
| | +1 | | +2 | | +1 | | -1 | |
| | 743 | → 4 | 744 | → 4 | 739 | ↗ 10 | 731 | ↘ 5 |
| Вільня | 0 | | 0 | | 0 | | +1 | |
| | +2 | | +1 | | +1 | | -2 | |
| | 751 | → 5 | 753 | ↘ 3 | 746 | ↗ 8 | 740 | ↘ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.25
Захад 18.28
Даўжыня дня 10.03

Усход 1.51
Захад 11.32
Квадра 3




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -17,3 °С у 2011 годзе
Максімальная тэмпература +4,8 °С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,8 мм у 2005 годзе
Паводле meteoinfo.by

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота забяспечана Ягорам БАЖКО.

**У двары дзіцячага цэнтра ранняга развіцця №19 у Маладзечне бацькі дзяцей, што займаюцца там, сабраліся і зрабілі такую прыгажосць сваімі рукамі. Вялізныя, рознакаляровыя, яркія скульптуры любімых дзіцячых герояў з казак і мульцікаў будуць упрыгожваць двор, пакуль не прыйдзе вясна. На фотаздымку Даша і Яраслаў Бажко. Іх бацькі Вікторыя і Ягор дапамагалі ствараць снежныя скульптуры.**



## Чытайце праз тыдзень:

- **Уявіце сабе, што недзе ў свеце людзі па-ранейшаму прыліпаюць да сваіх радыёпрыёмнікаў, каб паслухаць радыёспектакль. Пра тое, як ствараюцца радыёспектаклі ў Швецыі і Беларусі, чытайце праз тыдзень.**



## ПРОСТА АНЕКДОТ

Тры гадзіны ночы. Муж з жонкай спяць. Раптам званок у дзверы. Злосны муж ідзе адчыняць. На парозе нецвярозы мужчына.

– Сябар, пайшлі са мной, дапаможаш мяне штурхнуць.

– Ты што! Тры гадзіны ночы! Ідзі адсюль.

Зачыняе дзверы і зноў кладзецца ў ложак.

Жонка пытаецца, хто прыходзіў.

– Ды мужык нейкі прасіў штурхнуць, дык я яго прагнаў.

– Як ты мог? Памятаеш, як у нас пад дажджом матор заглух і нас нейкі хлопец цэлы дзень штурхаў. Ты што чалавеку дапамагчы не можаш.

Муж апранаецца і выходзіць на вуліцу. Крычыць у цемру:

– Мужык, ты дзе?

З цемры:

– Тут я! На арэлях!



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАМ І ТАТАЎ У РЭГІЁНЕ

# Як вы сябе паводзіце, калі ў краме ваша дзіця кажа: "Хачу гэта! Купі!"?



**Яўген Варакса, Івянец:**

– Пакуль вострa ў нас гэта пытанне не стаіць. Дачушцы тры гады і часам тлумачу ёй, што дома ў нас ужо ёсць тое і тое. Ці можам купіць восьгэта, а на тое зараз няма грошай. Да істэрыкі пакуль не даходзіла, але, думаю, тактыка была б такая ж – галоўнае самому быць спакойным. І загадзя думаць, ці трэба браць у канкрэтны момант дзіця ў краму.



**Маргарыта Шытыка, Маладзечна:**

– Калі маё дзіця просіць нешта купіць, а я цяпер не магу гэтага дазволіць, то тлумачу. Дачка, як правіла, не ные і ўсё разумее. Так прывучыла яе з дзяцінства, таму з гэтым праблем няма.



**Святлана Пухлякова, Маладзечна:**

– Усё залежыць ад таго, чаго хоча дзіця. Чыпсы, газіраваную ваду і ўсякую "хімію" не купляю. Кажу, каб выбрала нешта іншае, тады бяром кукурузныя палачкі ці express. У любым выпадку стараюся ў краму хадзіць без дзяцей.



**Надзея Чабатуль, Маладзечна:**

– У нас у гэтым плане нейкае вельмі правільнае дзіця. Што яму купім – таму і цешыцца. Максімум, аб чым можа папрасіць, – гэта кіндэр каля касы. І мы купляем. Таму што салодкае ён просіць вельмі рэдка.



**Дар'я Лазоўская, Маладзечна:**

– Па-рознаму бывае. Часам купляю, часам тлумачу, што купім пазней. Ці купляем нешта іншае.



**Алесь Капуцкі, Маладзечна:**

– Кажу: "Няма грошай, крызіс!" Дзеці ўжо школьнікі, таму не капрызнічаюць. Можа, і не ведаюць, што такое крызіс, але ўжо здагадваюцца.



**Марына Рапацэвіч, вёска Крыніца Маладзечанскага раёна:**

– Кажу выбіраць нешта адно з таго, што просіць. Раней здараліся істэрыкі, хоць і рэдка. Тады мы казалі, што калі яна не супакоіцца, то яе забярэ дзядзька-міліцыянер. І паказвалі на ахоўніка крамы. Гэта спрацоўвала.

**Падрыхтавала Аляксандра ПАРАХНЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№7 (1138) 17.02.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 154. Падпісана ў друк у 9.00 16.02.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.